# Голас Радзімы

№ 18 (2108)
4 мая 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.







На берагах Свіслачы ў Мінску адбылося гарадское свята сустрэчы вясны. Яно пачалося ў Купалаўскім парку, дзе сабралася шмат людзей на штогадовую выстаўку аднаго дня. А потым самадзейныя артысты з Гомельшчыны і мінская моладзь разам з гледачамі, якія сталі ўдзельнікамі дзеяння, перайшлі ў парк імя М. Горкага. Гучалі традыцыйныя веснавыя песні, у паветра ўзляталі папяровыя птушкі, падзіліся карагоды.

Фота М. МІНКОВІЧА.



З ІНФАРМАЦЫЙНАГА ПАВЕДАМЛЕННЯ

## ПЛЕНУМ ЦК КПСС

У Маскве адбыўся Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС. На ім разгледжаны некаторыя арганізацыйныя пытанні дзейнасці ЦК КПСС. З дакладам на Пленуме выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў.

М. С. Гарбачоў паведаміў, што група членаў ЦК КПСС, кандыдатаў у члены ЦК КПСС, членаў Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі КПСС з ліку тых, хто знаходзіцца на пенсіі, звярнулася з просьбай аб складанні сваіх паўнамоцтваў у цэнтральных выбарных органах партыі. Пленум задаволіў просьбу.

Адбыліся спрэчкі, пасля якіх з заключным словам выступіў М. С. Гарбачоў. (Тэкст выступлення ў скарачэнні друкуецца на стар. 3, 5 гэтага нумара «Голасу Радзімы»).

КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## ВЯРТАННЕ НА ЗЯМЛЮ

27 красавіка 1989 года пасля завяршэння запланаваных работ на борце навукова-даследчага комплексу «Мір» касманаўты Аляксандр Волкаў, Сяргей Крыкалёў і Валерый Палякоў вярнуліся на Зямлю.

Спускаемы апарат карабля «Саюз ТМ-7» зрабіў пасадку ў зададзеным раёне за 140 кіламетраў на паўночны ўсход ад горада Джэзказган. Самаадчуванне таварышаў Волкава, Крыкалёва і Палякова пасля прызямлення добрае.

Навуковая станцыя «Мір» функцыяніруе на калязямной арбіце больш трох гадоў, з іх 880 дзён—з касманаўтамі на борце.

Эфектыўная сістэма медыцынскага забеспячэння палётаў, распрацаваная ў нашай краіне, дазволіла паспяхова ажыццявіць чатыры доўгія экспедыцыі, у тым ліку рэкордны гадавы палёт. Пры непасрэдным удзеле ўрача Валерыя Палякова, які восем месяцаў працаваў на станцыі «Мір», выканана вялікая праграма нейрафізіялагічных, гематалагічных, біяхімічных даследаванняў і эксперыментаў. Атрыманы новыя даныя аб дынаміцы функцыянальнага стану арганізма і працаздольнасці касманаўтаў на розных этапах палёту. Вынікі праведзеных медыцынскіх даследаванняў, а таксама касмічная дыягнастычная апаратура знаходзяць усё большае прымяненне ў практыцы аховы здароўя.

На арбітальным комплексе «Мір» па праграме міжнароднага супрацоўніцтва ажыццёўлены палёты чатырох экіпажаў з удзелам касманаўтаў Сірыі, Балгарыі, Афганістана і Францыі. Паспяхова рэалізаваны праграмы даследаванняў, распрацаваныя вучонымі Савецкага Саюза і краін—удзельніц сумесных эксперыментаў. Вынікі чарговага этапа работ, праведзеных на арбіце, паслужаць далейшаму развіццю навукова-тэхнічнага прагрэсу ў нашай краіне і за рубяжом, справе ўмацавання супрацоўніцтва ў асваенні космасу.

Далейшае выкананне навуковай праграмы даследаванняў і эксперыментаў на станцыі «Мір» да прылёту чарговага экіпажа касманаўтаў прадугледжваецца ажыццяўляць у аўтаматычным рэжыме.

У БЮРО ЦК КПБ

## УШАНАВАННЕ ПАМЯЦІ

У сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння беларускага паэта Максіма Багдановіча, якое спаўняецца 9 снежня 1991 года, на чарговым пасяджэнні Бюро ЦК Кампартыі Беларусі быў зацверджаны рэспубліканскі аргкамітэт па падрыхтоўцы святкавання юбілею. На чале яго—міністр культуры БССР Я. Вайтовіч.

Разгледжаны таксама пытанні, звязаныя з увекавечаннем у рэспубліцы памяці:

рэвалюцыянера-дэмакрата Кастуся Каліноўскага (у сувязі са 130-годдзем пачатку нацыянальна-вызваленчага паўстання ў Беларусі і Літве, якое спаўняецца ў 1993 годзе);

старажытнарускага пісьменніка і грамадскага дзеяча Кірылы Тураўскага (у сувязі з 860-годдзем з дня нараджэння пісьменніка, якое спаўняецца ў 1990 годзе);

кіраўніка антыфеадальнага паўстання ў Крычаўскім старостве Васіля Вашчылы (у сувязі з 300-годдзем з дня яго нараджэння, якое спаўняецца ў 1990 годзе).

Прынята рашэнне аб будаўніцтве помнікаў: у Гродне — Кастусю Каліноўскаму, у Тураве Жыткавіцкага раёна — Кірылу Тураўскаму, у Крычаве—Васілю Вашчылу. Намечаны некаторыя іншыя меры па ўвекавечанню памяці гэтых асоб.

ПРЫЗНАНА ЮРЫСДЫКЦЫЯ

## У ЯКАСЦІ АФІЦЫЯЛЬНАГА ДАКУМЕНТА

Пастаяннае прадстаўніцтва Беларускай ССР пры ААН перадало генеральнаму сакратару ААН пісьмо міністра замежных спраў БССР наступнага зместу:

Паважаны пан генеральны сакратар!

Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, кіруючыся неабходнасцю ўсталявання прымату права ў палітыцы і павышэння ролі і патэнцыялу Міжнароднага суда ААН, пачала зняцце зробленых ёю агаворак адносна юрысдыкцыі Міжнароднага суда ААН па раду міжнародна-прававых дакументаў, удзельнікам якіх яна з'яўляецца.

Маю гонар паведаміць Вам, пан генеральны сакратар, што Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка прызнае абавязковую юрысдыкцыю Міжнароднага суда ААН па ніжэйпералічаных канвенцыях у галіне правоў чалавека: Канвенцыя аб папярэджанні злачынства генацыду і пакаранні за яго 1948 года, Канвенцыя аб барацьбе з гандлем людзьмі і з эксплуатацыяй прастытуцыі трэцімі асобамі 1949 года, Канвенцыя аб палітычных правах жанчын 1952 года, Міжнародная канвенцыя аб ліквідацыі ўсіх форм расавай дыскрымінацыі 1965 года, Канвенцыя аб ліквідацыі ўсіх форм дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын 1979 года, Канвенцыя супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных або ўніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання 1948 года і заяўляе, што адпаведныя палажэнні ўказаных дагавораў будуць распаўсюджвацца на спрэчкі па тлумачэнню і прымяненню гэтых дагавораў адносна выпадкаў, якія могуць узнікнуць пасля даты паведамлення генеральнаму сакратару ААН аб зняцці агаворак Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Прашу Вас, пан генеральны сакратар, як дэпазітарыя ўказаных канвенцый, паведаміць удзельнікам гэтых канвенцый аб змесце гэтага пісьма і распаўсюдзіць яго ў якасці афіцыяльнага дакумента Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

З павагай **А. Е. ГУРЫНОВІЧ**, міністр замежных спраў Беларускай ССР.

ТЭЛЕФАНІЗАЦЫЯ



**Рэспубліканская міжгародняя тэлефонная станцыя ў Мінску — галоўны пункт, які звязвае паміж сабой і буйныя прамысловыя цэнтры, і аддаленыя глыбінныя вёсачкі Беларусі. Нядаўна яна прадаставіла сваім абанентам магчымасць весці перагаворы таксама з жыхарамі Балгарыі і Венгрыі, ГДР і Польшчы, Чэхаславакіі і Югаславіі.**

**Колькасць абанентаў пастаянна павялічваецца за кошт расшырэння вытворчых плошчаў, пераабсталявання станцыі больш дасканалым абсталяваннем. Толькі ў гэтым годзе плануецца ўключыць у аўтаматычную сувязь каля двухсот напрамкаў. У бліжэйшы час у Мінску, а затым і ў іншых паштовых аддзяленнях рэспублікі з'явяцца новыя клавішныя таксафоны-аўтаматы. Дзякуючы ім абанент без асаблівых складанасцей звяжацца з адрасатам у любым кутку краіны.**

**НА ЗДЫМКУ: за наладкай клавішных таксафонаў-аўтаматаў — намеснік начальніка цэха паўаўтаматыкі Барыс КУХАРАЎ і вядучы інжынер Мінскага абласнога ўпраўлення сувязі Генадзь МЕЛЬНІКАЎ.**

УРАЧЭБНЫЯ КАНСУЛЬТАЦЫІ

## ЗДАРОЎЕ Ў НАШЫХ РУКАХ

Сэнс народнай мудрасці «здароўе ў нашых руках» глыбей зразумелі працаўнікі шклоўскіх саўгасаў «Даманы», «Прагрэс», «Рабочы» і мясцовага льнозавода, якія, не пакідаючы родных мясцін, змаглі пабываць на лекцыях, кансультацыях, прыёме ў вядучых спецыялістаў аховы здароўя вобласці.

Урачэбная брыгада, у якой былі педыятр, кардыёлаг, анколаг і псіханеўролаг, займалася прафілактычным аглядам дзяцей, прыёмам пацыентаў, схільных да сардэчна-сасудзістых і іншых цяжкіх хвароб, вучыла іх метадам папярэджання захворванняў.

Гэты цыкл урачэбных кансультацый пад дэвізам «здароўе ў нашых руках» арганізавала для сельскіх працаўнікоў і работнікаў прамысловасці абласная арганізацыя таварыства «Веды». Фінансавыя расходы ўзялі на сябе саўгасы і прадпрыемствы.

НА СЕСІІ ААН

## У ПАДТРЫМКУ КАНФЕРЭНЦЫІ

У Нью-Йорку на ўзноўленай 43-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН завяршылася абмеркаванне пытання аб Палесціне. Пастаянны прадстаўнік БССР пры ААН Л. Максімаў, які выступіў у ходзе агульнай дыскусіі, запатрабаваў неадкладнага спынення Ізраілем жорсткіх карных мер супраць безабаронных удзельнікаў мірнага палесцінскага паўстання на акупіраваных ім тэрыторыях. Ён падкрэсліў, што галоўным цяпер у развязцы вузла блізкаўсходніх праблем і іх ключавой састаўной часткі — палесцінскага пытання з'яўляецца хутчэйшае склікане міжнароднай канферэнцыі па Блізкаму Усходу з удзелам у ёй на роўнай аснове ўсіх зацікаўленых дзяржаў, уключаючы палесцінскую, і пяці пастаянных членаў Савета Бяспекі.

Дэлегат БССР выступіў у падтрымку канкрэтных мер па падрыхтоўцы канферэнцыі.

НОВЫЯ ТАВАРЫ

## ЧЫМ ДАПАМАГЧЫ ГАСПАДЫНІ

**«Рэкта» — так называюцца новыя кухонныя гарнітуры, якія пачала выпускаць Жлобінская мэблевая фабрыка. Самым строгім густам гаспадынь дагадзілі распрацоўшчыкі гэтых арыгінальных набораў: у іх умяшчальныя верхнія шафы, ёсць дадатковыя адсекі для захоўвання посуду і сталовых прыбораў, прыгожая мыйка з нержавеючай сталі. А ўманціраваны на відным месцы гадзіннік «падкажа», што страва даведзена да гатоўнасці.**

**У гэтым годзе прадпрыемства поўнасцю абнавіла асартымент, і цяпер, на думку спецыялістаў, яго вырабы не ўступаюць многім замежным узорам. Але вось пытанне: як ліквідаваць «кухонны» дэфіцыт у гандлі, які сёння існуе, і ператварыць мару тысяч гаспадынь у рэальнасць?**

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ

РАСШЫРЫЛІ ПЛАНТАЦЫІ КОСТАЧКАВЫХ КУЛЬТУР САДАВОДЫ САЎГАСА «РАССВЕТ» БРЭСЦКАГА РАЁНА. АГРАНОМЫ ГАСПАДАРКІ ПАБЫВАЛІ НА АДНОЙ З ВОПЫТНЫХ СТАНЦЫЙ У КРЫМЕ, ВЫВУЧЫЛІ ВОПЫТ ПРАМЫСЛОВАГА ВЫРОШЧВАННЯ АЛЫЧЫ.

Саўгасны сад — самы буйны ў рэспубліцы. Ён займае тысячу гектараў і ўжо ў бліжэйшыя гады зможа ў дастатку пастаўляць Брэсту яблыкі, грушы, чорныя і чырвоныя парэчкі, агрэст, маліну, суніцы, ажыну, сліву і вішню. Цяпер да гэтага пераліку дабавіцца і алыча.

Частка пладоў і ягад з саду будзе адпраўляцца непасрэдна ў магазіны, частка трапіць у сховішча і цэх глыбокай замарозкі.

МНОГІЯ ПАЛЯВОДЫ КАЛГАСА «СВІЦЯЗЬ» НАВАГРУДСКАГА РАЁНА АСВОІЛІ РАБОЧЫЯ ПРАФЕСІІ І СТАЛІ ДА СТАНКОЎ.

У гаспадарцы дзейнічае падсобны цэх па выпуску блокаў для электронных гадзіннікаў. Згодна дагавору з Мінскім навукова-вытворчым аб'яднаннем «Інтэграл», у двухпавярховым корпусе завадчане змантавалі абсталяванне, навучылі сялян сваім спецыяльнасцям, забяспечваюць іх сыравінай, вывозяць гатовую прадукцыю. На розных аперацыях заняты дзесяткі чалавек, у асноўным моладзь.

На аснове кааперацыі з прамысловымі прадпрыемствамі Мінска, Гродна, Навагрудка своеасаблівыя філіялы заводаў і фабрык дзейнічаюць у васьмі гаспадарках раёна. Так, у калгасе імя Кірава, дзе інтэнсіўна развіваюцца і асноўныя галіны, чатыры падсобныя цэхі выпускаюць, галоўным чынам з мясцовай сыравіны, гіпсавую абліцовачную плітку, мэблю, сталярныя вырабы, тару і нават дзіцячыя цацкі.

ЦЭЛЫ АГАРОД РАЗМЯСЦІЎСЯ НА ВІТРЫНАХ МАГАЗІНА, ШТО АДКРЫЎСЯ НЯДАЎНА НА АДНОЙ З АЖЫЎЛЕНЫХ ВУЛІЦ МІНСКА — ПУШКІНСКІМ ПРАСПЕКЦЕ.

Агуркі і радыска, памідоры і кроп... Калі лічыць па таблічках, то набярэцца некалькі дзесяткаў назваў. Але пакупнікам прапаноўваюць не саму гароднінy, а яе насенне.

Напярэдадні вясенняй пасяўной у агародах і на дачных участках тавар гэты — з самых ходавых. Тут загадзя паклапаціліся, каб гаспадары маглі купіць усё патрэбнае без асаблівых клопатаў. Магазіны па продажу насення адкрыты на ўсіх буйных рынках гарадоў рэспублікі і ў райцэнтрах. А ў сталіцы іх ужо шэсць.



**Незвычайна цёплае надвор'е адбілася на сёлетнім календары сельскагаспадарчых работ. Яны пачаліся значна раней леташняга. На поўдні рэспублікі, на Гомельшчыне, напрыклад, ужо ідзе пасадка бульбы. НА ЗДЫМКУ: на палі выйшлі бульбасаджалкі.**

# ЗАКЛЮЧНАЕ СЛОВА М. С. ГАРБАЧОВА

## на Пленуме ЦК КПСС 25 красавіка 1989 года

Таварышы! Палітычны момант, які перажывае наша грамадства, з'яўляецца вельмі адказным. І ён патрабуе адказнага палітычнага аналізу і адказнай палітычнай ацэнкі. Дакладнага аналізу і дакладнай ацэнкі. І ў гэтым я бачу каштоўнасць прайшоўшай сёння размовы на Пленуме Цэнтральнага Камітэта партыі. Пры ўсім роскідзе думак і нават іх супярэчлівасці я лічу, што цяперашняя дыскусія на Пленуме ЦК па самых строгіх крытэрыях заслугоўвае таго, каб яе ацаніць як буйную, важную для дзейнасці ЦК і работы партыі ва ўмовах перабудовы на яе вельмі адказным этапе.

Сапраўды, мы сёння вырашаем задачы гістарычнага маштабу. Але людзі жывуць сёння, і іх цікавіць перш за ўсё магчымасць хуткага паляпшэння рэальных умоў жыцця. У наяўнасці супярэчлівая сітуацыя.

Таму ў палітыцы вельмі важна зразумець сутнасць праблем, знайсці такія шляхі іх вырашэння, якія б максімальна адпавядалі рэальнасцям. У гэтым сэнс палітычнай дзейнасці КПСС. І гэта абавязвае партыю разгортваць яшчэ мацней сваю тэарэтычную, палітычную, ідэалагічную і арганізатарскую работу.

Я салідарны з тымі, хто не ўпадае ў разгубленасць, спрабуе глыбока зразумець складаную дыялектыку падзей, што адбываюцца на гэтым выключна складаным этапе развіцця нашага грамадства, хто спрабуе ўзбагаціць палітыку перабудовы, стратэгічны курс партыі і выстраіць тактыку, якая б адпавядала гэтай стратэгіі, хто імкнецца вырашаць задачы абнаўлення сацыялізму.

У гэтым сэнсе вялікі матэрыял для разважанняў даюць мінулыя выбары, якія сталі, як мы цяпер гаворым, па сутнасці рэферэндумам, прычым рэферэндумам на карысць перабудовы. Выбары адназначна сказалі «так» перабудове.

Выбары паказалі: пераважная большасць савецкіх людзей не ўяўляюць будучыні краіны без перабудовы, без аздараўлення і абнаўлення жыцця на сацыялістычных каштоўнасцях. Гэта — галоўны палітычны вынік выбараў, ды і ўсіх апошніх чатырох гадоў напружанай работы.

Прычым — гэта я хачу падкрэсліць — выбары праходзілі ў складаных умовах, можа, нават у вельмі складаных. Харчовая праблема яшчэ далёка не вырашана. Яна нас хвалюе, мы гэтыя пытанні разглядалі на мінулым Пленуме ЦК. Востра стаіць жыллёвае пытанне. Тавараў народнага спажывання ў магазінах не хапае. Пералік дэфіцытаў расце. Фінансавае становішча дзяржавы цяжкае.

Востра паўсталі, прама скажам, запушчаныя пытанні ўдасканалення савецкай многанацыянальнай федэрацыі, на чым у радзе месцаў спрабуюць спекуляваць нацыяналістычныя, экстрэмісцкія і антысавецкія элементы. Спрабуюць і спекуляваць людзі, якія не сфарміраваліся як асобы ў палітычным плане, а часцей — проста кар'ерысцкія элементы. Усё гэта мае месца.

І тым больш важны той неаспрэчны факт, што ў гэтай складанай абстаноўцы, калі нам прадказвалі, што людзі не пойдуць на выбары, а тыя, што пойдуць, будуць галасаваць супраць, — савецкі народ адназначна выказаўся за перабудову, пацвердзіў сваю прыхільнасць да сацыялізму, падтрымаў лінію партыі на далейшае абнаўленне грамадства.

Але ўжо сёння мы можам цвёрда сказаць: зроблены новы прынцыповага значэння крок у развіцці дэмакратыі. Выбары паказалі, што перабудова перастала быць справай пераважна энтузіястаў і першапраходцаў. Сёння мы можам сказаць, што яна ператварылася сапраўды ў агульнанародны рух.

Гэта надзвычай важная палітычная канстатацыя, на якую я хацеў бы асабліва ўказаць. Таму што, не зразумеўшы гэтага вываду, цяжка правільна пабудаваць работу і ў цэнтры, і ў рэспубліках, і на месцах, і ў партыі, і на гаспадарчым фронце — усюды.

Але сказаць толькі гэта, значыць сказаць далёка не ўсё. Уважлівы аналіз перадвыбарнай кампаніі, вынікаў усенароднага галасавання паказвае: савецкія людзі выказаліся не проста за перабудову, але і за яе далейшае паглыбленне, за большую рашучасць у яе правядзенні, за больш хуткія перамены да лепшага ва ўсіх сферах нашага жыцця. І, мне думаецца, у гэтым вывадзе мы з вамі адзіныя. І гэта думка гучала сёння на Пленуме.

Інакш кажучы, выбаршчыкі, падтрымаўшы перабудову як стратэгію, як палітыку, жорстка і патрабавальна ацанілі тое, як увасабляецца курс партыі ў жыццё, як працуюць партыйныя, савецкія, гаспадарчыя органы, кіруючыя кадры, якія дасягнуты вынікі. Мы павінны бачыць: людзі незадаволены тым, як вырашаюцца наспеўшыя праблемы ў канкрэтным горадзе, у раёне, у вобласці, у рэспубліцы, у той або іншай галіне, у цэлым у краіне.

Думаецца, што мы прычыны таго, што перабудова на радзе напрамкаў не дае вынікаў, на якія мы ўсе разлічвалі, караняцца ў дзейнасці цэнтральных органаў. Выступіўшыя на Пленуме многае заўважылі правільна, з прынцыповых пазіцый. Тут, як кажуць, ні ўбавіць, ні прыбавіць. Значыць, многае трэба абдумаць і ў ЦК, і ў Палітбюро, і ва ўрадзе, з тым каб іх дзейнасць адпавядала маштабам вырашаемых задач у краіне.

Але, гаворачы аб гэтым, павінен падкрэсліць і іншае: так, зразумела, адказнасць цэнтра вялікая, і прымяншаць яе не трэба. Але каштоўнасць цяперашняй дыскусіі на Пленуме ЦК заключаецца ў тым, што ў выступленнях многіх прамоўцаў прагучала разуменне ролі мясцовых і рэспубліканскіх партыйных органаў у вырашэнні наспеўшых задач.

Карціна павінна быць поўнай, і аналіз усебаковым. Не прымяншаючы адказнасці цэнтра, хачу прыцягнуць вашу ўвагу да такой думкі: працэсы, якія адбываюцца ў рамках перабудовы, мы накіроўваем і будуем так, каб даць больш самастойнасці і рэспублікам, і мясцовым органам, і гаспадарчым арганізацыям. Гэта пацвярджае любы дакумент, які датычыць эканамічнай і палітычнай рэформ. Усё накіравана на тое, каб многія правы дэлегіраваліся з цэнтра на месцы.

Гэту новую сітуацыю ўжо многія выкарысталі І разгарнулі вялікую работу, практычна вырашаюць пытанні, якія накопліваліся гадамі. У радзе рэгіёнаў, гарадоў і раёнаў ёсць рэальны рух наперад. Людзі гэта бачаць і па заслугах ацэньваюць. Аб гэтым правільна гаварылі сёння таварышы.

Але ўсё ж пакуль тут у нас не ўсё добра. І вось аб чым я хачу сказаць у сувязі з гэтым. Працоўныя добра разумеюць, што для вырашэння кардынальных праблем патрэбен час. Я гэта ведаю са шматлікіх кантактаў з рабочымі, сялянамі, інтэлігенцыяй, з гаспадарчымі кіраўнікамі і партыйнымі работнікамі. Людзі гэта разумеюць, але яны не хочуць мірыцца з перабоямі ў забеспячэнні тым, што ёсць у дастатку. Яны незадаволены арганізацыяй работы гандлю і сферы абслугоўвання, гарадскога транспарту, запушчанасцю санітарнага стану гарадоў, адсутнасцю рашучай барацьбы з безгаспадарчасцю, парушэннямі правапарадку, экалагічным станам гарадоў і населеных пунктаў, адносінамі да помнікаў культуры.

Многія ж гэтыя пытанні не патрабуюць ні асаблівых рашэнняў цэнтра, ні перабудовы эканамічнай і палітычнай сістэмы, не патрабуюць і капітальных укладанняў. Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што многія крытычныя заўвагі звязаны з тым, што людзі ў розных арганізацыях працягваюць адчуваць старую атмасферу, дзе на любога наведвальніка глядзяць ледзь ці не як на персону нон грата, непажаданую з'яву.

Савецкія людзі вельмі ўспрымальныя да разумных аргументаў, і калі чалавеку, што паставіў якое-небудзь пытанне, прад'яўляюць пераканаўчыя аргументы, прычым шчыра, і спрабуюць яго зрабіць удзельнікам аналізу якой-небудзь сітуацыі, то ён згаджаецца. Але калі людзі застаюць у многіх кабінетах тую ж атмасферу, якая склалася дзесяцігоддзямі, відавочнае нежаданне нават пагутарыць з імі, то гэта асабліва абурае.

Аб гэтым я лічу патрэбным сказаць сёння. Таму што сёй-той ужо дагаворваецца да таго, што, нібыта, і дэмакратыя, і публічнасць — гэта ледзь ці не бедства. І ў тым, што народ стаў дзейнічаць, не хоча маўчаць і прад'яўляе патрабаванні, бачаць выдаткі перабудовы.

Я ж, таварышы, бачу ў гэтым поспех перабудовы. Гэта пункт погляду і Палітбюро. Мы ідзём да народаўладдзя, уключаем рабочага чалавека ва ўсе эканамічныя і сацыяльныя працэсы. Робім гэта праз адраджэнне яго як гаспадара на вытворчасці, праз дэмакратычныя формы і новыя метады гаспадарання, праз выбарчую кампанію, праз адраджэнне Саветаў. Гэта менавіта тое, што нам трэба. Гэта тое, дзеля чаго мы пачыналі ўсё. Каб самаадчуванне чалавека ў сацыялістычнай дзяржаве было нармальным, добрым. Каб ён перш за ўсё сябе адчуваў чалавекам.

Я думаю, што калі каго-небудзь такі ход падзей і такі паварот перабудовы не задавальняе, то гэта, таварышы, вельмі сур'ёзна. Ёсць прыватнасці, ёсць зрывы, правалы. Але ёсць прынцыповы курс. Той, аб якім гаварыў Ленін: сацыялізм — жывая творчасць мас. І мы праз новыя механізмы, на аснове палітычнай і эканамічнай рэформ якраз узвышаем чалавека, як галоўную дзеючую асобу ва ўсіх сферах перабудовы, ва ўсіх сферах жыцця.

У пошуках рознага роду прычын можна дайсці да палітычнага абсурду і заблудзіць. Нельга глядзець на сённяшнія працэсы вачамі ўчарашняга дня, ацэньваць іх толькі са сваёй званіцы. Патрэбен палітычны аналіз, прынцыповы і сумленны. Адзіна правільны падыход — гэта падыход палітычны, з пазіцый інтарэсаў сацыялізму і патрабаванняў народа. Толькі такі падыход прывядзе нас да правільных вывадаў, і ніякі іншы. А правільныя вывады — гэта фундамент для перабудовы работы.

Так, таварышы, савецкія людзі адназначна прагаласавалі за перабудову, але пры гэтым яны мелі на ўвазе перабудову не як абстрактную ідэю, а як рэзультатыўны працэс, насычаны канкрэтным зместам і рэальнымі справамі.

Так, савецкія людзі недвухсэнсава выказаліся за сацыялізм, але ў яго абноўленым і гуманным аблічы, за сацыялізм, які сапраўды служыць інтарэсам народа, узвышае чалавека.

Так, савецкія людзі прагаласавалі ў масе сваёй за камуністаў, за тых, хто ўвасабляе ў іх вачах тую партыю перабудовы, якая сцвярджае сябе ў якасці палітычнага авангарда грамадства ў новых умовах.

Сваім выбарам савецкія людзі пацвердзілі, што бачаць у партыі адзіна рэальную і надзейную палітычную сілу, якая здольна забяспечыць адначасова і абнаўленне грамадства, і яго кансалідацыю.

Перш за ўсё трэба сказаць, што, нягледзячы на ўсе складанасці, з якімі давялося сутыкнуцца ў апошні перыяд, нам удалося надаць эканоміцы большую сацыяльную накіраванасць. Хоць мы разумеем, што гэта пакуль першыя зрухі і зрабіць трэба будзе яшчэ вельмі многае.

Спынена тэндэнцыя падзення тэмпаў росту эканомікі па важнейшых паказчыках. Наметзіліся зрухі ў развіцці народнай гаспадаркі на інтэнсіўнай аснове, усё больш спрацоўвае інтэнсіўны фактар. Ажыццяўляецца структурная перабудова, хоць і не зусім так, як мы яе намячалі, але яна пачалася і ідзе, адбіваецца на навукова-тэхнічным абнаўленні вытворчасці.

Пры ўсіх складанасцях развіваецца эканамічная рэформа. Умацоўваецца эканамічнае становішча прадпрыемстваў, аб'яднанняў, калгасаў, саўгасаў. Ідзе маштабная перабудова сістэмы кіравання эканомікай. Устаноўлены новыя прынцыпы знешнеэканамічных сувязей.

І што асабліва важна ў працэсе перамен, якія адбываюцца, дык гэта тое, што мяняюцца адносіны людзей да справы, мяняецца псіхалогія, фарміруецца як бы новы тып работніка. Размова ідзе не толькі аб гаспадарніках, але і аб працоўных калектывах. Вельмі важна, што ў рамках перабудовы пачаў мяняцца чалавек.

Але тым, што мы зрабілі ў эканоміцы, мы незадаволены, асабліва што датычыць канчатковых вынікаў. Мы ведаем, што цяперашнім становішчам у эканоміцы незадаволены і працоўныя. У іх ёсць для гэтага падставы.

Вельмі важна дзень пры дні даводзіць да свядомасці ўсіх працоўных неабходнасць такога падыходу, разуменне таго, што глыбокія пераўтварэнні нам жыццёва неабходны і што яны дадуць сур'ёзную аддачу.

Але, таварышы, гэта не значыць, што цяпер мы можам грэбаваць першачарговымі жыццёвымі праблемамі, якія існуюць у грамадстве і якія патрабуюць свайго вырашэння. Аб гэтым ужо гаварылася на красавіцкім (1985 г.) Пленуме ЦК, і асабліва на XXVII з'ездзе партыі, які прызнаў неабходным правядзенне моцнай сацыяльнай палітыкі, неабходнасць пераарыентацыі нашай эканомікі на вырашэнне надзённых праблем жыцця народа.

У канкрэтным плане размова ідзе, і гэта з асаблівай сілай было падкрэслена на чэрвеньскім (1987 г.) Пленуме ЦК, аб прыярытэтным развіцці аграрнага сектара ў вырашэнні харчовай праблемы, жыллёзага будаўніцтва, нарошчванні вытворчасці тавараў народнага спажывання і сферы паслуг. Перамены на ўсіх гэтых напрамках адбываюцца. Аб іх мне і іншым таварышам ужо прыходзілася гаварыць. Адпаведныя лічбы наконт гэтага рэгулярна публікуюцца. Але нас не можа не трывожыць, таварышы, што гэтыя зрухі мала адчувае народ, што абстаноўка, у прыватнасці, на ўнутраным рынку не толькі не палепшылася, але яна нават у многіх выпадках стала больш вострай і, як я ўжо гаварыў, дэфіцыт працягвае нарастаць.

Мы не можам не бачыць, што ў грамадстве ў сувязі з гэтым расце занепакоенасць. Людзі хваравіта рэагуюць на дэфіцыты, на чэргі, якія забіраюць час і, прама скажам, уніжаюць чалавека. Людзі ўспрымаюць гэту сітуацыю як разрыў паміж словам і справай, як неадпаведнасць паміж абяцаннямі і рэальнымі пераменамі ў жыцці.

Прызнаючы абгрунтаванасць гэтага нездавальнення, мы павінны спытаць сябе: як жа магло здарыцца, што паляпшэнне паказчыкаў народнай гаспадаркі, павышэнне прадукцыйнасці працы, нарошчванне рэсурсаў, якія хоць і не так, як хацелася б, але ўсё ж адбываюцца, не вядуць да паляпшэння сітуацыі на рынку, а наадварот, рынак усё больш разладжваецца. Мы павінны гэта растлумачыць народу і разабрацца для саміх сябе, каб потым гэта трансфарміраваць у палітыку і практычную дзейнасць.

Што ж адбылося? Вядома, было і такое, чаго нельга было прадбачыць — Чарнобыль, падзенне цэн на нафтавым рынку і сёе-тое іншае. Але наўрад ці, таварышы, гэтым можна растлумачыць усё тое, што адбылося ў эканоміцы, асабліва на спажывецкім рынку. Якая ж тады цана нашай планавай гаспадарцы, калі непрадбачаныя акалічнасці могуць вывесці яе з раўнавагі?!

Мы павінны даць праўдзівую, самакрытычную ацэнку нашай уласнай дзейнасці — і ЦК, і ўрада, і цэнтральных органаў кіравання. Ды і не толькі іх, але і рэспубліканскіх, і мясцовых органаў.

Перш за ўсё я павінен сказаць, што мы з сур'ёзным спазненнем заняліся аналізам і ацэнкай фінансавага становішча краіны.

Многія рашэнні прымаліся без належнага ўліку рэальнага стану фінансаў і магчымасцей эканомікі, хоць яны і дыктаваліся наспеўшымі сацыяльнымі патрэбнасцямі грамадства.

На самай справе, меры, якія былі прыняты ў жыллёвым будаўніцтве, — хіба можна сказаць, што яны былі няправільнымі? І мы пачалі прырошчваць тэмпы жылля. Або меры па ахове здароўя, куды мы накіравалі дадаткова 6 мільярдаў рублёў. Або меры па народнай адукацыі, дзе трэба было вырашаць і праблемы матэрыяльнай базы, і заработнай платы работнікаў. Гэта ж вострыя пытанні, якія да таго часу моцна выходзілі на паверхню. Мы павысілі пенсіі асобным катэгорыям людзей, стыпендыі для студэнтаў і навучэнцаў.

Усё гэта адкладваць было нельга. Але пры гэтым трэба было адначасова грунтоўна вызначыць крыніцы фінансавання гэтых мерапрыемстваў, скарачаючы расходы на іншыя мэты. У поўнай меры гэтага зроблена не было. Працягвалі расці ваенныя расходы, незавершанае будаўніцтва, расходы на кіраванне, на ажыццяўленне некаторых гіганцкіх праектаў і г. д.

І сёння ўсе маюць права задаць пытанне: дзе ж былі цэнтральныя эканамічныя ведамствы, члены ЦК, якія іх узначальваюць? Сёння мы павінны прад'явіць ім сур'ёзны рахунак. Бо ў значнай меры гэта адбылося таму, што з іх боку не было своечасова і з дастатковай вастрынёй пастаўлена пытанне аб фінансавым становішчы краіны, аб існуючым на працягу многіх гадоў дысбалансе, дэфіцыце бюджэту, аб фактычным нарастанні дзяржаўнага доўгу.

(Заканчэнне на 5-й стар.).

# ТУТ ЗАЎСЁДЫ РАДЫ ГАСЦЯМ

**ДРУКУЕМ ПІСЬМЫ СУАЙЧЫННІКАЎ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ ЮБІЛЕЮ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»**

## УДЗЯЧНЫ ЗА ВАШУ ЎВАГУ

Вялікае дзякуй за навагоднія віншаванні, за віншаванне з 8-м Сакавіка і за пісьмо, а таксама за маладзёжныя календары, якія вы нам даслалі. Я і ўсе нашы жанчыны вам удзячныя. Вы вельмі ўважлівыя, і нас ніколі не забываеце, яшчэ раз дзякуй за ўсё.

У нас клубныя справы ідуць нядрэнна, жанчыны працуюць па гадавому плану, які склалі яшчэ ў кастрычніку 1988 года. Добра адзначылі 8-е Сакавіка. Праграма называлася «Якімі маладымі мы былі». Зрабілі стэнд з нашых фатаграфій маладых гадоў, падрыхтавалі спектакль. Першы раз у жыцці нашага клуба нас запрасілі Генеральны консул і супрацоўнікі консульства, каб сумесна адзначыць 8-е Сакавіка. Жанчыны засталіся вельмі задаволенымі.

Прабачце, што я затрымала пісьмо. Прычынай было землетрасенне, якое здарылася ў Арменіі 7-га снежня 1988 года. Я адразу паехала ў мой родны горад Ленінакан, 17-га снежня была ўжо там, бацьку не застала, ён загінуў пад разваліналі універмага. Сем'і брата і сястры цудам выратаваліся. Загінула многа знаёмых, сяброўкі і 12 чалавек сваякоў. Мне вельмі цяжка ўсё гэта ўспамінаць. Паўтара месяца была ў Арменіі, усё было жахліва, ніяк не магу паверыць, што здарылася такое няшчасце. Суцяшэнне толькі, што цяпер «зялёная» дарога ў Арменію, з усіх бакоў дапамагаюць. У гэтай дапамозе ёсць і ваша доля. Вялікае дзякуй і нізкі паклон вам і ўсім. Хацелася, каб мае сваякі жылі часова ў вашай рэспубліцы, але яны паехалі ўжо ў іншыя пансіянаты.

Заканчвала сваё пісьмо, як атрымала ваша. Магу напісаць, што вельмі ўзрадавалася. Тут жа званіла нашай старшыні Луізе Фесё, якая таксама парадавалася. Мы дзякуем вам за вашу добрую традыцыю, за цікавыя мерапрыемствы і яшчэ за вашу дасканалую арганізацыйную работу. Хачу паведаміць, што мы абмеркавалі гэтыя пытанні ў нас у праўленні і ў клубе, выбралі кандыдатаў у піянерлагер да вас і на курсы мастацкай самадзейнасці. Падрабязна напішам пра гэта вам. Вялікае за ўсё дзякуй.

Шлём прывітанне вам, вашым сем'ям і супрацоўнікам таварыства «Радзіма» ад мяне, маёй сям'і і ад членаў клуба.

З вялікай павагай

**намеснік старшыні клуба**
**Мялькіда МАРАНЯН.**

Сірыя.

## ДА ХУТКАЙ СУСТРЭЧЫ

Паважаныя сябры!

Вашы пісьмы атрымаў. Вялікае дзякуй. Прабачце, што адразу не мог адказаць. Асабіста я, а таксама Айрын удзячны ўсім супрацоўнікам Беларускага таварыства «Радзіма» за любоў і клопат пра нас.

Атрымаўшы запрашэнне ад царквы на нашу групу з 8 чалавек, усё патрэбнае аформіў і адаслаў у Савецкае пасольства. Чакаем цяпер візы. Білеты купілі. Выязджаем з ФРГ у маі. Людзі, якія з намі прыедуць, — веруючыя: чатыры прапаведнікі і дзве жанчыны. Адна з іх вельмі любіць рускіх, ды і сама гаворыць па-руску і папольску. Гэтыя людзі з розных месцаў ФРГ. Я лічу, што такая група будзе карыснай, бо яны раскажуць усім немцам пра становішча веруючых у СССР і гасціннасць славянскай душы. У нас яшчэ вельмі многа антысаветчыны. Праўда, мы заўсёды атрымліваем перамогу над ілжывай прапагандай.

А цяпер я маю да вас просьбу, лічу гэта важным і карысным. Пакажыце гэтым маладым людзям, якія раны і бедствы нанёс фашызм нашай Савецкай Радзіме: Хатынь, Курган С ı, музей Айчыннай вайны, сам горад М і іншае што-небудзь. Таму што тут ніхто не гаворыць аб злачынствах, прычыненых нашаму народу.

Гэта вельмі і вельмі добра, што нашы людзі будуць на кватэрах веруючых у Мінску. Самая моцная зброя супраць ілжывай анты цкай прапаганды, калі чалавек убачы на свае вочы і пачуе на свае вушы.

Да хуткай сустрэчы. З павагай

**Міхаіл МЕЛЬНІК.**

ФРГ.

## У ПАДАРУНАК — ВЕРШ

Паважаныя супрацоўнікі Беларускага таварыства «Радзіма»!

Я атрымала ад вас каляндар «Радзіма», за што сардэчна дзякую. Гэта незвычайнае выданне. З яго ж так многа можна даведацца пра Савецкі Саюз, пра розныя нацыянальнасці. А колькі ў ім відаў прыроды. Столькі прыгажосці! Мне падабаюцца таксама вершы і павучальныя прымаўкі. Калі чытаеш каляндар, думаеш, якая шчаслівая ваша моладзь, таму што ўсё навокал з дзяцінства вучыць іх дабру.

Мяне вельмі цікавяць вершы. Я заўсёды любіла рускія і беларускія песні. Сама пяю ў хоры пры Федэрацыі рускіх канадцаў горада Ванкувера ўжо каля 40 гадоў.

Пасылаю праграму, магчыма вам будзе цікава, што адбудзецца ў гэтыя два месяцы ў нашым Ванкуверскім аддзеле.

І яшчэ. Хаця самавучкай, але я іншы раз пішу вершы, асабліва хочацца што-небудзь сказаць і зрабіць на карысць міру.

Пасылаю адзін кароценькі верш у падарунак, калі жадаеце, перадайце яго сваім дзецям ці змясціце ў газеце.

**Мы — дети — взываем к народам,**
**Что в будущем счастья мы ждем.**
**Нужны нам и мир, и свобода,**
**Об этом мы песню поем.**
**Пусть яркое солнце сияет**
**И греет людские сердца.**
**Пусть песня звучит, не смолкает**
**За мир, мы за мир до конца.**

Шкада, што не маю на гэты верш музыкі, каб можна было спяваць дзецям.

Будзем старацца па сіле магчымасці працаваць на карысць міру.

Жадаю ўсяму вашаму калектыву здароўя, шчасця і самых найлепшых поспехаў у вашай рабоце.

З сяброўскім прывітаннем да вас

**Ганна РЫБІНА.**

Канада.

## РАБОТА ІДЗЕ

Дарагія сябры!

Вялікае дзякуй за прысланую фотавыстаўку і календары (праўда, пасылка ішла каля двух месяцаў, таму так спазніўся наш адказ).

Выстаўку аб Беларусі мы размесцім у нашым клубным пакоі, які нядаўна выдзелены нам у Савецкім культурным цэнтры ў горадзе Дамаску. Календары вырашылі ўручыць актывістам клуба ў Дзень 8 Сакавіка.

Вы ўжо ведаеце, што наш клуб існуе афіцыйна з 1983 года, чулі і аб тым, якую работу мы вядзём з жанчынамі-суайчынніцамі і іх дзецьмі (аказваем дапамогу маючым патрэбу, праводзім літаратурныя вечары, вечары адпачынку, ранішнікі для нашых дзяцей). Вядома, у нашай рабоце ёсць свае цяжкасці: не хапае падручнікаў для пачатковай школы, дапаможнікаў для гуртка малявання, цяжка з грымам і касцюмамі для драмгуртка. Але работа ідзе. Сёлета, як звычайна, правялі навагодні ранішнік для дзяцей. Для дарослых арганізавалі два літаратурныя вечары: «Жыццё і творчасць М. Ю. Лермантава» і «Раман Б. Пастэрнака «Доктар Жывага».

У нашым клубе цяпер 100 жанчын. Праўленне на чале са старшынёй складаецца з 5 чалавек і выбіраецца агульным сходам кожныя тры гады. Усе мы бачым асноўную задачу клуба ў тым, каб умацоўваць сувязі суайчынніц з Радзімай, выхоўваць нашых дзяцей так, каб яны любілі нашу краіну, ведалі яе слаўную і цяжкую шматвяковую гісторыю.

Будзем вельмі рады, калі паміж клубам «Родник» і таварыствам «Радзіма» наладзяцца сяброўскія сувязі. Гэта будзе яшчэ адным сведчаннем таго, што Радзіма помніць пра нас.

З павагай

**старшыня праўлення клуба «Родник»**
**Людміла АБАЗІД.**

Сірыя.

**ДЖЭЙМ ДЗІНГЛІ — СТАРШЫНЯ АНГЛА- БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА Ў ЛОНДАНЕ**

# «ЦЯПЕР ДАРОГУ ВЕДАЮ»



Сустрэча, на якой мне давялося прысутнічаць у кабінеце галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Анатоля Вярцінскага, напэўна, яшчэ гады тры таму назад не магла б адбыцца. Вельмі ўжо, мякка кажучы, нацягнутымі былі нашы адносіны з такой арганізацыяй, як Англа-беларускае таварыства ў Лондане. Але час мяняецца. Працэсы перабудовы, дэмакратызацыі і публічнасці, якія адбываюцца ў краіне, прымушаюць адмовіцца ад многіх звыклых стэрэатыпаў, адкрываюць перад намі новыя падыходы. Стала магчымай і гэтая сустрэча са старшынёй таварыства Джэймсам Дзінглі.

Некалькі слоў аб нашым субяседніку. Джэймс Дзінглі — англічанін, яму сорак сем гадоў. 25 гадоў назад ён зацікавіўся рускай мовай і літаратурай. Яшчэ праз два га ы пазнаёміўся з захавальнікам бібліятэкі імя Францыска Ск рыны ў Лондане айцом Надсанам, які на ўсё жыццё зацікавіў Джэймса беларускай культурай і мовай. У 1963 годзе ён заканчвае універсітэт у Кембрыджы, доўгі час працуе перакладчыкам Нацыянальнай бібліятэцы сл ага Брытанскага музея, зат выкладчыкам рускай мовы ў каледжы непадалёку ад Лондана. З 1985 года Джэймс Дзінглі з'яўляецца загадчыкам кафедры рускай мовы і літаратуры ў Лонданскім універсітэце.

— На нашай кафедры цяпер трынаццаць чалавек. Многія, як і я, вывучаюць і іншыя мовы славян, — растлумачыў Джэймс Дзінглі. — Дарэчы, айцец Надсан зацікавіў багаццем і самабытнасцю беларускай культуры і мовы не толькі мяне, але і яшчэ некалькіх англічан. Мы пазнаёміліся з некаторымі беларусамі, якія жывуць у англійскай сталіцы, і разам стварылі наша Англа-беларускае таварыства ў Лондане.

— Што ўяўляе сабой ваша арганізацыя, якія яе мэты і задачы?

— Наша таварыства невялікае. На сёння налічвае каля пяцідзесяці членаў. Гэта людзі розных нацыянальнасцей, якія жывуць у Лондане. Іх аб'ядноўвае цікавасць да беларускай культуры. Вядома, ініцыятарамі стварэння такога таварыства былі беларусы. У асноўным гэта былыя служыцелі уніяцкай царквы. Можа быць таму і адносіны да нас да нядаўняга часу былі з боку БССР, калі не адмоўныя, то, прынамсі, абыякавыя. Але я хачу падкрэсліць, што мы не займаемся палітыкай, а толькі стараемся захоўваць і па меры магчымасці развіваць беларускую культуру. Цяпер таварыства мае ў Лондане сваю невялікую рэзідэнцыю. Гэта чатыры памяшканні, у якіх знаходзяцца бібліятэка, кватэры састарэлых членаў-святчэннаслужыцеляў, пакоі для размяшчэння гасцей. Для работы ў бібліятэцы імя Францыска Скарыны прыязджаюць беларусы з розных краін. На жаль, у нас бывае мала гасцей з самой Беларусі. Пакуль можам пахваліцца толькі наведваннямі славутага пісьменніка Васіля Быкава і вядомага літаратуразнаўцы і крытыка Адама Мальдзіса. Вельмі хацелася б, каб такіх візітаў было больш, і мы спадзяёмся, што ваша перабудова гэтаму дапаможа.

— Дарэчы, аб перабудове. Вы ведаеце, што ў нас вельмі многае мяняецца ў розных галінах жыцця, у тым ліку і ў галіне нацыянальнай палітыкі, культуры. А ці мяняецца што-небудзь у дзейнасці вашага таварыства?

— Так. Ваша перабудова аказвае ўплыў і на нас. Раней мы абмяжоўваліся ў сваёй рабоце зборам матэрыялаў па беларускай культуры, прапагандай і распаўсюджаннем яе ў Англіі і сярод замежных беларусаў. Штогод мы чытаем курс з 5—6 лекцый на беларускія тэмы ў Лонданскім універсітэце, выпускаем невялікі часопіс, прысвечаны беларускай культуры, арганізоўваем навуковыя семінары міжнароднага характару. Былі, напрыклад, семінары, прысвечаныя Скарыне, 100-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, і іншыя. На іх мы запрашалі і савецкіх вучоных, але, на жаль, ніхто не прыехаў. Цяпер мы рыхтуемся да намечанай на будучы год 4-й міжнароднай канферэнцыі па вывучэнню Савецкага Саюза і Усходняй Еўропы. Хацелася б, каб у ёй прынялі ўдзел і славісты з Беларусі. Ну а цяпер на першы план у рабоце таварыства вылучаецца развіццё сувязей з Савецкай Беларуссю. Можа быць вы палічыце гэта нясціплым, але я павінен сказаць, што мы маем вельмі багатую бібліятэку, сабраную шматгадовымі намаганнямі нашых членаў. Там ёсць рэдкія выданні, некаторыя — адзіныя экземпляры. І мы хочам, каб беларусы маглі ўсім імі карыстацца. Мы гатовы да самага шырокага супрацоўніцтва з беларускімі вучонымі, з любымі арганізацыямі вашай рэспублікі, якія гэтым зацікавяцца. Цяпер, спадзеючыся, што гасцей з Беларусі стане больш, мы складаем каталогі і бібліяграфію ўсяго таго, што ёсць у бібліятэцы імя Францыска Скарыны. Яшчэ раз скажу, што гэта багаты навуковы і культурны матэрыял, ім павінны карыстацца ўсе беларусы.

— І апошняе пытанне. Якія вашы ўражанні аб нашым горадзе? Вы ж прыехалі сюды ўпершыню?

— Так, я першы раз у Мінску. Трапіў сюды, напэўна, зноўтакі дзякуючы вашай перабудове. Я быў па справах у Казані. Заключаў пагадненне аб навучанні там нашых студэнтаў. Прадбачу пытанне — чаму менавіта там, а не тут. Справа ў тым, што Беларусь прапаноўвае абмен студэнтамі. Але ў Лондане вельмі цяжка з жыллём, і ў сябе прымаць групы нам складана. А ў Казані мы можам проста плаціць грошы за навучанне. Дык вось, свае справы там я скончыў хутчэй, чым разлічваў, і ў мяне заставаўся час. Я падумаў, што было б нядрэнна з'ездзіць у Мінск. І ўсё аказалася вельмі проста: заказаў нумар у гасцініцы, купіў білет і прыехаў. Горад мне спадабаўся. Але галоўнае, што я змог тут сустрэцца з многімі цікавымі людзьмі — пісьменнікамі, вучонымі, журналістамі. Спадзяюся, што гэтыя сустрэчы дапамогуць у развіцці сувязей нашага таварыства з Савецкай Беларуссю і мы хутка ўбачым гэтых людзей у сябе. Цяпер я дарогу ведаю, і, вядома, буду прыязджаць у Мінск часцей.

**Рыгор ФАМЕНКА.**

# ЗАКЛЮЧНАЕ СЛОВА М. С. ГАРБАЧОВА

## на Пленуме ЦК КПСС 25 красавіка 1989 года

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

І трэба прама сказаць, у значнай меры з-за слабасці работы эканамічных ведамстваў, а таксама галіновых міністэрстваў мы аказаліся непадрыхтаванымі да таго, каб забяспечыць праз эканамічныя рычагі эфектыўнае ўздзеянне на працэсы рэалізацыі законаў аб дзяржаўным прадпрыемстве, аб кааперацыі, аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці.

З аднаго боку, вытворчыя калектывы не змаглі па-сапраўднаму праявіць сваю прадпрымальнасць, ініцыятыву ў рамках сваіх новых правоў. А з другога боку—цэнтр аказаўся ў такім становішчы, што ён не мае сёння неабходных рычагоў уздзеяння на рэгуляванне даходаў, перш за ўсё прадуманай падатковай палітыкі. Столькі дзесяткаў гадоў мы дзейнічалі ў рамках адміністрацыйнай сістэмы, што ў нас не толькі практыка, але і навука аказалася бездапаможнай, не змагла прапанаваць адразу неабходныя праекты, меры, якія б дапамагалі нам стварыць патрэбныя механізмы, забяспечылі пераход да эфектыўнага гаспадарання.

Усё гэта і прывяло да таго, што сур'ёзна падарваны важнейшы эканамічны прынцып—прынцып апераджальнага росту прадукцыйнасці працы ў параўнанні з ростам заработнай платы. Прычым негатыўныя тэндэнцыі тут не толькі не слабеюць, але пакуль працягваюць набіраць сілу. У мінулым годзе па народнай гаспадарцы прырост заработнай платы склаў 7 працэнтаў, прадукцыйнасці працы — 5,1 працэнта, а ўжо ў першым квартале гэтага года адпаведна 9,4 і 4,5, гэта значыць тэмп прыросту заработнай платы больш чым удвая перавысіў павелічэнне эфектыўнасці работы.

Наогул рост прадукцыйнасці працы ў цэлым нядрэнны. Гэта адлюстроўвае аздараўленне эканомікі, паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу. Але гэта ўсё часта бывае марна, таварышы. Марна таму, што зарплата не прывязана да канчатковага выніку.

Кардынальнага паляпшэння патрабуе і насычэнне рынку таварамі народнага спажывання і паслугамі. Існуючая тут сітуацыя непакоіць усё грамадства. Наконт гэтага ідуць вялікія, гарачыя дыскусіі. Тут, як кажуць, і крытыкі больш чым дастаткова, і ў значнай меры яна зусім справядлівая. Але выказваецца і многа ідэй, як развязаць гэты вузел. У гарачлівасці бакамі прад'яўляюцца адзін аднаму і прэтэнзіі, і абвінавачанні.

Я цяпер не хачу ўцягвацца ў дыскусію. Адно ясна, таварышы, што ў значнай меры ўсё гэта звязана з тым, што мы не маем пакуль неабходнай базы для вытворчасці айчынных тавараў у патрэбнай колькасці і асартыменце. Мы паставілі задачу неадкладна стварыць такую базу за кошт рэканструкцыі і пераўзбраення лёгкай і харчовай прамысловасці, а таксама значна расшырыць выпуск тавараў працяглага карыстання ў галінах цяжкай прамысловасці, асабліва ў абаронных галінах. Гэту лінію мы павінны не толькі цвёрда, але я сказаў бы, жорстка праводзіць і прад'яўляць сур'ёзныя патрабаванні за рэалізацыю намечаных праграм.

Такую работу мы пачалі. Пайшло ўжо абсталяванне для лёгкай і харчовай прамысловасці з нашых абаронных прадпрыемстваў. А ўсяго нам трэба будзе даць яго на некалькі дзесяткаў мільярдаў рублёў.

Задача нармалізацыі становішча на рынку — гэта такая праблема, якая не можа быць вырашана — і гэта трэба сказаць з усёй пэўнасцю,—без самага шырокага і практычнага ўдзелу рэспублік, краёў і абласцей, буйнейшых прамысловых і індустрыяльных цэнтраў, асабліва ў цяперашніх умовах, калі ўсё больш дэлегіруюцца правы рэспублікам, рэгіёнам, прадпрыемствам, працоўным калектывам.

Бо наогул, таварышы, ужо сёння ўсё, што датычыць аграрнага сектара, лёгкай і харчовай прамысловасці, гандлю, сферы абслугоўвання, аховы здароўя, асветы і гэтак далей, — усё гэта ў большасці сваёй знаходзіцца ў кампетэнцыі рэспубліканскіх і мясцовых органаў. І яшчэ большае развіццё гэты працэс атрымае пасля таго, калі мы абмяркуем і прымем законы аб рэгіянальным гаспадарчым разліку і аб органах мясцовага самакіравання.

Вядома, таварышы, праблема нарошчвання вытворчасці тавараў і паслуг, нармалізацыі рынку патрабуе адпаведнага і разумення, і адносін, і канкрэтнага ўкладу з боку вытворчых калектываў. Тут таксама трэба вялікую работу весці партыйным арганізацыям.

Шырокія правы, дадзеныя працоўным калектывам, не заўсёды—і таварышы маюць рацыю, падкрэсліваючы гэта,—звязваюцца ў свядомасці людзей з разуменнем таго, што толькі яны самі, і ніхто іншы, могуць забяспечыць свой дабрабыт на аснове росту прадукцыйнасці працы і павышэння эфектыўнасці вытворчасці.

Трэба глядзець праўдзе ў вочы. Многія развучыліся працаваць. Звыкліся з тым, што ім нярэдка плацяць толькі за прыход на работу. Грамадства больш з гэтым не можа мірыцца і аб гэтым трэба заявіць у поўны голас. Пакуль у нас у поўны голас гучаць лозунгі і заклікі ўраўняваць. І ў час выбарнай кампаніі многія кандыдаты ў дэпутаты шырока эксплуатавалі гэту тэму.

Я не згодзен з крайнімі меркаваннямі, што партыя ледзь ці не страчвае свае пазіцыі ў краіне, што яна ператвараецца ў дыскусійны клуб і г. д. Намякаюць на слабасць, на нерашучасць цэнтра. Думаю, некаторыя таварышы, апынуўшыся на крутым павароце, страчваюць упэўненасць, здаюць пазіцыі. А гэта нікуды не варта.

Але я ўспрымаю выказванні, якія тут прагучалі, і як інфармацыю, якую таварышы хацелі давесці да ведама ЦК, Палітбюро. Гэта інфармацыя падавалася так, каб на яе звярнулі ўвагу. Таму я яе ўспрымаю папартыйнаму: гэта — размова, якая патрэбна. Дзе ж яшчэ аб гэтым гаварыць, як не ў Цэнтральным Камітэце, калі ў людзей заклапочанасць аб партыі.

Выбары дапамаглі лепш высветліць тэндэнцыі ўзаемадзеяння і перапляцення працэсаў, якія адбываюцца ў нашым грамадстве. Што тут галоўнае? Гэта хуткае нарастанне і паглыбленне дэмакратызацыі. І не толькі ў дзейнасці палітычных інстытутаў, але і ва ўсіх іншых сферах жыцця грамадства. Я маю на ўвазе і эканамічную, і духоўную, і сацыяльную сферы.

І самае галоўнае, таварышы, — і гэта я хачу асабліва выдзеліць — хуткі рост самасвядомасці народа. І, напэўна, будзе абгрунтаваным сёння канстатаваць, што па сутнасці мы маем справу са здаровым канструктыўным сацыялістычным працэсам — з шырокай палітызацыяй мас, з выхадам на арэну грамадскай дзейнасці новых і новых мільёнаў людзей, многія з якіх яшчэ нядаўна былі даволі далёкія ад палітыкі або наогул не праяўлялі да яе ніякага інтарэсу і ўвагі.

Мы гаварылі з вамі: давайце вучыцца працаваць ва ўмовах дэмакратыі! Мы ведалі, што нас чакае беспрэцэдэнтная выбарчая кампанія. І ўсё ж не ўсе мы аказаліся гатовымі да работы ў новых умовах.

Вострая і адкрытая пастаноўка многіх пытанняў, якія накапіліся ў грамадстве за папярэднія дзесяцігоддзі, — гэта сённяшні факт, і вельмі важны. На хвалі народнай ініцыятывы, у рамках перабудовачных працэсаў нарадзіліся і працягваюць узнікаць шматлікія грамадскія фарміраванні, праз якія выходзяць наверх уся разнастайнасць інтарэсаў, настрояў розных сацыяльных груп, асаблівасці ўспрымання імі таго, што адбываецца ў грамадстве. Бо па-рознаму праламляецца тое, што адбываецца, у розумах людзей, у розных слаях насельніцтва. Гэта мы бачым, гэта рэальныя рэчы. Гэта таксама вельмі істотны фактар, які характарызуе цяперашнюю абстаноўку.

Павінен прама сказаць, таварышы, што партыйныя арганізацыі, нашы кадры ў многіх выпадках аказаліся не гатовы да такога павароту ў развіцці дэмакратычных працэсаў у грамадстве. Дзейнасць рада партыйных камітэтаў, савецкіх органаў і ў сваіх падыходах, і ў стылі, і ў метадах работы, у асэнсаванні праходзячых працэсаў не заўсёды паспявае за жыццём. Гэта адносіцца і да Цэнтральнага Камітэта партыі, і да яго Палітбюро.

Увогуле ў нейкай меры ствараецца парадаксальная сітуацыя—партыя ініцыіравала працэс дэмакратызацыі, зрабіла вельмі многае для таго, каб гэтыя лозунгі ўвасабляліся ў жыццё. І гэта атрымала паўсюдную падтрымку працоўных, усяго народа. І дарэчы, на гэтым рос і працягвае захоўвацца аўтарытэт партыі. Цяпер жа, калі ўсё грамадства прыйшло ў рух, калі працэс дэмакратызацыі пайшоў углыб і ўшыр, калі ён выносіць на паверхню грамадскага жыцця і новыя сілы, і новыя праблемы, якія патрабуюць абмеркавання і вырашэння, на гэтым шляху мы ўсё часцей натыкаемся на інерцыю старога мыслення, на жаданне звярнуцца да старых метадаў, прытармазіць праходзячыя працэсы. Вось дзе супярэчнасць узнікае!

А сёй-той нават пачынае панікаваць і ледзь ці не бачыць пагрозу сацыялізму, усім нашым заваёвам ад такога развароту дэмакратычных працэсаў у краіне.

Не, таварышы, мы павінны сёння клапаціцца не аб тым, каб прытармазіць народную ініцыятыву і самадзейнасць. Задача якраз у тым, каб партыя ўзначальвала працэс нарастання грамадскай актыўнасці народа, задавала тон і ўмацоўвала ў ім стваральныя асновы ў інтарэсах рэвалюцыйнага абнаўлення сацыялістычнага грамадства, у інтарэсах перабудовы. Вось у чым сутнасць пытання.

У нас некаторыя партыйныя камітэты аказваюцца ў становішчы таго камандзіра, у якога полк або дывізія пайшлі ў наступленне, а ён усё яшчэ з акопа не выберацца, саслізгвае ў яго, пункт апоры не знойдзе і ўсё ў акопе сядзіць, а час ужо ісці ў наступленне.

Будзем дзейнічаць, узначальваючы працэс нарастання грамадскай актыўнасці народа, — справа перабудовы пойдзе далей па намечанаму курсу і партыя атрымае яшчэ большую падтрымку з боку працоўных. Страцім ініцыятыву, дапусцім адставанне—справе перабудовы будзе нанесены сур'ёзны, а то і непапраўны ўрон, узнікнуць дадатковыя маральныя, сацыяльныя, палітычныя і гаспадарчыя цяжкасці.

Іменна з такога разумення авангарднай ролі партыі мы павінны сёння выходзіць. Але для гэтага сама партыя павінна пастаянна развівацца на ленінскіх прынцыпах дэмакратызму, у духу патрабаванняў часу.

Зразумела, як і ўсякая рэвалюцыя, перабудова павінна ўмець абараняць сябе, выкарыстоўваючы сілу пераканання і сілу закона. У гэтым сэнсе фарміраванне прававой дзяржавы будзе ствараць усё больш надзейныя гарантыі, з аднаго боку, для працэсаў дэмакратызацыі, а з другога,— для абароны дэмакратычных пераўтварэнняў.

Мы павінны па максімуму выкарыстоўваць прававыя рычагі ў развіцці перабудовы, у развіцці дэмакратыі, у павышэнні ініцыятывы кожнага чалавека. Гэта значыць і ў абароне дэмакратыі, і ў абароне правоў і інтарэсаў кожнага грамадзяніна.

Нам трэба зразумець, што чым больш свабод грамадства прадастаўляе сваім грамадзянам, тым больш дасканалымі павінны быць закон і правапарадак, тым больш строгае іх выкананне. У інтарэсах перабудовы і ў інтарэсах развіцця дэмакратыі ні ў якім выпадку нельга дапусціць, каб ініцыятыва людзей ператваралася ў самавольства, каб свабоды і правы адной часткі грамадства дасягаліся шляхам ушчамлення правоў і свабод другой яго часткі. І ўжо тым больш нельга дапусціць, каб дэмакратызацыя грамадскіх працэсаў выкарыстоўвалася супраць нашага канстытуцыйнага ладу.

Калі мы сур'ёзна сталі на шлях перабудовы, на шлях дэмакратызацыі, нам трэба як мага хутчэй выпрацаваць і пусціць у ход механізм абароны дэмакратыі. Іменна на гэта накіраваны бягучая заканадаўчая дзейнасць і нядаўна апублікаваны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, які ў цэлым сустрэты ў грамадстве з разуменнем. Але я згодзен з выступіўшымі тут таварышамі, якія гаварылі, што ў некаторых органаў друку выпрацоўваецца свайго роду стэрэатып: як толькі выходзіць нейкі новы дакумент, яны становяцца ў апазіцыю да яго, часам не ўнікнуўшы ў сутнасць пытання.

У далейшым развіцці праватворчай работы будзе заключацца адна з важнейшых функцый З'езда народных дэпутатаў і Вярхоўнага Савета СССР.

Сярод задач, якія цяпер асабліва непакояць грамадства, трэба выдзеліць барацьбу са злачыннасцю. Людзі з трывогай і абурэннем пішуць у ЦК аб успышцы насілля, жорсткасці і нахабнасці злачынцаў, аб росце крадзяжоў, карупцыі, цяжкіх злачынстваў. Прычым рост злачыннасці назіраецца паўсюдна. Але асабліва трывожная сітуацыя склалася ў рэспубліках Закаўказзя, Прыбалтыкі, Узбекістане, Туркменіі, у Паволжы, Мурманскай, Растоўскай абласцях. Пагоршыўся грамадскі парадак у Маскве і Ленінградзе.

Я цяпер бы, таварышы, на Пленуме ЦК не хацеў удавацца ў падрабязны аналіз узнікшай сітуацыі, хоць яна і заслугоўвае гэтага. Скажу толькі, што па даручэнню Палітбюро ЦК гэтым ужо займаюцца камісія ЦК КПСС па пытаннях прававой палітыкі, нашы дзяржаўныя праваахоўныя органы. Але, бадай, на Пленуме ЦК, як мне ўяўляецца, неабходна адзначыць наступнае. Відаць, тут у нас адбыліся пэўныя пралікі.

З самага пачатку нам трэба было мець на ўвазе, што ўсякае расшырэнне дэмакратыі, гуманізацыя жыцця павінны ісці паралельна з бескампраміснай барацьбой са злачыннымі элементамі. А ў нас і партыйныя, і савецкія органы, і працоўныя калектывы дапусцілі аслабленне ўвагі да гэтых пытанняў.

Не на вышыні аказаліся і праваахоўныя органы. Камусьці можа здалося, што развіццё дэмакратыі павінна ствараць для злачынцаў больш гуманныя ўмовы. На самай жа справе ў рамках сапраўднай дэмакратыі злачынным элементам павінна быць значна горш, а грамадзянам значна лепш. Вось формула.

Падтрыманне правапарадку, дзяржаўнай і грамадскай дысцыпліны — гэта справа ўсіх грамадзян, усяго грамадства, усіх працоўных калектываў. Так гаворыць наша Канстытуцыя.

Таварышы! Ведучы перабудову, мы, вядома, у ацэнках вынікаў работы партыі не павінны дапусціць і ценю самазадаволенасці, заспакоенасці. Здаровая самакрытычнасць неабходная не толькі ў працоўных калектывах, партарганізацыях, але і на вышэйшым узроўні партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва.

Мы ў Палітбюро ў поўнай меры прызнаём справядлівасць настойванняў павысіць патрабавальнасць да работнікаў-камуністаў за даручаную справу і ў цэнтры, і на месцах. Трэба выпраўляць становішча. І мы будзем гэта рабіць.

Усе мы, члены кіруючага ядра партыі, члены Палітбюро, сакратары ЦК, члены ўрада, нясём поўную адказнасць за палітычны курс, які вядзе да абнаўлення грамадскай будовы. Сіла партыйнага кіраўніцтва ў тым, што яно калектыўнае. Але ў той жа час кожны член кіруючага звяна партыі і дзяржавы нясе сваю долю персанальнай адказнасці за той або іншы ўчастак работы, асабліва за тое, як выконваюцца рашэнні Палітбюро і ўрада.

У сённяшняй абстаноўцы патрабаванні, звернутыя да партыйных кадраў, павінны быць такімі ж прынцыповымі і строгімі, як і да ўсіх іншых кіраўнікоў. Ім неабходна рашуча мяняць стыль работы, ісці да людзей, жыць іх праблемамі, інтарэсамі і клопатамі. Там жа, дзе наспелі кадравыя перамены, дзе без іх церпіць наша агульная справа, нам трэба іх ажыццяўляць, не прыпыняючы ў гэтым плане якіх-небудзь ваганняў.

У нашай краіне, з яе гісторыяй і традыцыямі, з яе складанай многанацыянальнай структурай, з прыхільнасцю савецкіх людзей да сацыялістычных каштоўнасцей і ідэалаў, партыя застаецца натуральным палітычным лідэрам, адзінай рэальнай сілай, здольнай забяспечыць сацыяльную стабільнасць на аснове рэвалюцыйных перамен; гарманізацыю інтарэсаў розных грамадскіх сіл; рашучы адпор небяспечным праяўленням нацыяналізму і шавінізму; унутранае адзінства і цэласнасць Савецкай сацыялістычнай дзяржавы. І, нарэшце, галоўнае — захаванне гістарычных заваёў сацыялізму і развіццё закладзеных у ім дэмакратычных і гуманістычных каштоўнасцей.

Партыя заваявала велізарны аўтарытэт на першым этапе перабудовы, прапанаваўшы рэвалюцыйны курс развіцця краіны. Сёння галоўны сэнс яе дзейнасці — у ажыццяўленні палітыкі перабудовы, у практычных справах кожнай партыйнай арганізацыі, кожнага камуніста.

## ДЫСКУСІЯ ПА ТЭОРЫІ ЛІТАРАТУРЫ

Савецкая рэчаіснасць апошняга часу нараджае маленькія і вялікія сенсацыі. Адна з іх — дыскусія пад назвай «Ці адмаўляцца нам ад сацыялістычнага рэалізму?». Некалькі гадоў назад падобнае пытанне магло быць зададзена толькі ўпаўголаса і ў вузкім коле. Выступленне супраць Метаду азначала ледзь ці не падрыў устояў савецкага мастацтва. Сёння перамагае публічнасць, для крытыкі адкрыта і гэтая забароненая раней зона.

### ЧАТЫРЫ ПУНКТЫ ГЛЕДЖАННЯ

Спачатку палеміка развівалася вельмі асцярожна. Сёння яна ўжо залішне рэзкая. Псіхалагічна гэта зразумела. Тым не менш рэзкасцю логіку замяніць нельга.

# ВЯЛІКАЯ СПРЭЧКА ПРА САЦРЭАЛІЗМ

З чыста ўнутранай, мастацтвазнаўчай, дыскусія ператвараецца ў грамадскую. У ёй удзельнічаюць людзі, якія прамых адносін да мастацтва не маюць, гэта значыць не толькі мастакі і крытыкі, але і чытачы, і гледачы. Прычым чытачоў, як высветлілася, праблема сацыялістычнага рэалізму цікавіць нават больш, чым іншых літаратараў.

У спрэчцы, што вядзецца ў творчых саюзах, на старонках «Литературной газеты», «Советской культуры» і іншых выданняў, выяўляюцца чатыры асноўныя пазіцыі.

Першая — сацрэалізм скампраметаваў сябе, стаўшы Вялікай Догмай, не адпавядае патрабаванням часу і не мае права на жыццё.

Другая — вульгарызатары могуць скампраметаваць усё, і сацрэалізм за гэта адказнасці не нясе. Ён быў патрэбны ў 30-х і 40-х гадах, сёння ж гэта не эстэтычны, а ідэалагічны і палітычны тэрмін. Таму неабходна новае тэарэтычнае вызначэнне метаду.

Трэцяя — сацрэалізм захоўвае ўсе свае магчымасці і мае нераскрытыя рэзервы.

Чацвёртая — ён мае права на жыццё, але толькі як **адзін** з існуючых у мастацтве напрамкаў.

Думаецца, што апошні пункт гледжання найбольш прадукцыйны і дэмакратычны. У вялікай раўнапраўнай спрэчцы з іншымі плынямі, напрамкамі, метадамі сацрэалізм сам дакажа (ці не дакажа) сваю неабходнасць і жыццёвасць.

### НАЙБОЛЬШ ХАРАКТЭРНЫЯ ЦЫТАТЫ СА СПРЭЧКІ

Ужо па загалоўках артыкулаў і пісьмах, накіраваных у рэдакцыі, можна меркаваць аб пазіцыях бакоў: «Трэба адмовіцца», «Патрабуецца ачышчэнне і — працяг пошукаў», «Застаецца вядучым», «Дыстанцыя паміж практыкай і тэорыяй», «Не метад, а метады». А вось і найбольш характэрныя цытаты з выказванняў:

«Неабходна размежаваць паняцці «савецкая літаратура», «сацыялістычная літаратура», «літаратура сацыялістычнага рэалізму» (В. Пераверзін, дацэнт Якуцкага універсітэта).

«Тэорыя сацрэалізму ў сённяшнім яе стане ўжо не можа задавальняць нікога. У розных яе варыянтах яна мае справу з лозунгам, што выкарыстоўваецца ў якасці навуковага паняцця» (В. Цюпа. Кемерава).

«Літаратурныя творы, што пыліліся ў архівах, супярэчылі старой тэорыі сацрэалізму, вось таму яны так доўга чакалі свайго выхаду да чытача. Але калі разглядаць іх у святле сацыялістычнага ідэалу, то яны напісаны ў духу сацыялістычнага рэалізму: гэта праяўляецца ў адносінах пісьменнікаў да рэчаіснасці, у іх ацэнцы падзей і герояў, у канцэпцыі жыцця» (В. Захараў, выкладчык Петразаводскага універсітэта).

«Зводзіць пытанне аб крытэрыі рэалізму як да знешняй праўдападобнасці, так і да адступлення ад яе ў роўнай ступені памылкова. І той, і другі падыходы прымітыўныя і па сутнасці сваёй фармальныя. Поспехі і няўдачы могуць быць у абодвух выпадках» (В. Ванслаў, правадзейны член Акадэміі мастацтваў СССР).

«Зноў метады? Зноў падыходы? Зноў манаполія адзінак? Няўжо гісторыя не навучыла?! Хіба страх неадпаведнасці можа быць рухаючай сілай мастацтва? Палітызацыя творчасці — гэта прамы шлях да кан'юнктуры, ідалапаклонства, інквізіцыі» (А. Біянаў, мастак. Іжэўск).

«Думаю, што не варта працягваць спрэчку аб сацрэалізме. Твор можа быць ці таленавітым, ці бяздарным — трэцяга не дадзена. І чытач заўсёды зразумее, да якога тыпу яго аднесці» (А. Гусоўскі, інжынер, Масква).

### ПАПЯРЭДНІЯ ВЫВАДЫ

Дыскусія яшчэ працяг[illegible]ецца, але пэўныя вывады напрошваюцца самі. Па-першае, відавочна, што сацыялістычны рэалізм «зачыніць» нельга, як нельга «зачыніць» рамантызм ці «адмяніць» готыку, і самае галоўнае — «зачыня[illegible] яго няма ніякай неабходна[illegible] Гэта рэальна існаваўшы і існуючы пласт савецкай і не толькі савецкай мастацкай культуры — дастаткова назваць творчасць М. Андэрсена-Нэксё, Б. Брэхта, Л. Арагона, П. Нэруды. Лепшыя творы, напісаныя ў форме сацрэалізму, напрыклад, раман М. Горкага «Маці», «Як гарталася сталь» М. Астроўскага, «Ціхі Дон» М. Шолахава, паэзія У. Маякоўскага, фільмы «Браняносец «Пацёмкін» С. Эйзенштэйна, «Чапаеў» братоў Васільевых, палотны К. Пятрова-Водкіна і А. Дайнекі, зрабілі ў свой час вельмі моцнае ўражанне на сусветнае мастацтва і грамадскасць. Гэтыя творы застануцца ў гісторыі савецкай культуры.

Па-другое, дарэмныя, бяссэнсавыя і нават амаральныя спробы штучна «пашырыць» ці «звузіць» рамкі сацрэалізму. У яго свае прынцыпы, і адмаўляцца ад іх дзеля кан'юнктурных меркаванняў не трэба. Пікасо — вялікі мастак і камуніст, але да сацрэалізму ён адносін не мае. А. Ахматава і М. Цвятаева—выдатныя паэтэсы, але іх творчасць за межамі сацрэалізму. У той жа час раман В. Гросмана «Жыццё і лёс», які выклікаў незадаволенасць і папрокі некаторых ветэранаў сацрэалізму, мае да гэтага метаду самыя непасрэдныя адносіны. Гросман адышоў тут не ад сацыялістычнага рэалізму, а ад акрэсленых пісьменніцкай бюракратыяй межаў яго выкарыстання.

Па-трэцяе, трэба згадзіцца, што сацрэалізм не адзіны напрамак у савецкім мастацтве, а адзін з існуючых. І нельга перашкаджаць добраахвотным і шчырым прыхільнікам гэтага метаду працягваць тварыць у яго напрамку. Гэта было б перш за ўсё недэмакратычна. Калі ж мы прызнаем магчымасць існавання ў савецкім мастацтве рэалістычных і нерэалістычных твораў, сама сабой адпадзе неабходнасць судзіць аб усіх творах па адным трафарэце.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

*ЗНАЁМІМ З ТВОРЧАСЦЮ МАЛАДЫХ*

# ВЯРТАННЕ ПАМЯЦІ

Пачатак, можна сказаць, традыцыйны. Свае творчыя сілы Уладзімір Арлоў спярша паспрабаваў у паэзіі, напісаўшы некалькі вершаў. Прапанаваў іх не ў перыядычны друк, а на старонкі машынапіснага часопіса «Мілавіца», які рыхтаваў і «выдаваў» разам са сваімі аднадумцамі, тагачаснымі студэнтамі гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Праўда, пачатак гэты ў пэўнай ступені заканамерны, калі прыняць пад увагу той факт, што У. Арлоў не проста ўзяўся за пяро, а з жаданнем асэнсоўваць гістарычную праблематыку.

Гэтаму таксама ёсць сваё тлумачэнне. Нарадзіўся У. Арлоў у Полацку, горадзе, які мае даўнюю і багатую гісторыю. Адсюль, з зямлі, што многае памятае і шмат пра што можа расказаць, родам адзін з найбольш адукаваных людзей свайго часу Францыск Скарына. Нямала, калі б маглі гаварыць, паведалі б сівыя муры і пра князя Усяслава Чарадзея, пра іншых знакамітых людзей, якія заўсёды памяталі, што родная зямля ніколі не павінна быць пад пятой у чужынцаў.

Паветра, настоенае на легендах і паданнях, У. Арлоў удыхаў з маленства. Зразумела, і самому хацелася з цягам часу дакрануцца да мінуўшчыны, таму пасля заканчэння сярэдняй школы доўга не вагаўся, адразу падаў заяву на гістарычны факультэт. Ва універсітэце адчуў, што, калі будзе прытрымлівацца толькі таго, пра што гаворыцца ў падручніках і лекцыях, наўрад ці зможа нешта новае даведацца пра гісторыю свайго краю. Так сталася, што гады навучання У. Арлова супалі з гадамі застою і ў нацыянальнай гістарычнай навуцы. Над думкай выкладчыкаў, а, значыць, і студэнтаў, якія не хацелі ісці ў рожкі са старымі, уладарыла «абэцэдараўшчына» (ад прозвішча вучонага-гісторыка Л. Абэцэдарскага, які доўгі час меў права на ісціну ў апошняй інстанцыі і па сутнасці фальсіфікаваў у рэспубліцы гістарычную навуку). Тыя, хто быў смялейшы, а галоўнае — мысліў неардынарна, праседжвалі гадзінамі ў бібліятэках, па магчымасці наведвалі архівы, шукаючы праўду з першакрыніц.

Да апошніх і належаў У. Арлоў. Выступленне на старонках «Мілавіцы» стала той пробай крыла, якая так неабходна для далейшага творчага палёту. Яно ж, гэта крыло, памацнела, калі У. Арлоў, закончыўшы універсітэт, набыў яшчэ прафесію журналіста. Праца ў наваполацкай газеце «Химик» (неўзабаве стаў намеснікам рэдактара), кіраўніцтва мясцовым літаратурным аб'яднаннем садзейнічаліназапашванню жыццёвых назіранняў і адначасова выводзілі на галоўную творчую дарогу.

Я не выпадкова сказаў выводзілі, агаворкі тут няма. Справа ў тым, што спачатку У. Арлоў (пераважнай большасцю сваіх твораў у гэтым пераканала яго першая кніга «Добры дзень, мая Шыпшына») не сказаць, каб надта вылучаўся сярод сваіх аднагодкаў-дэбютантаў. Маецца на ўвазе выбар тэмы. Скажам, у адным са сваіх лепшых апавяданняў «Водсвет валошак» ён пры ўсім іншым «пісаў пад Шукшына». У другім апавяданні «Певень» не надта сягаў далей традыцыйна-вясковай прозы з яе пе[illegible]рыжаванасцю гарадскімі [illegible]ывамі. Гэта нават дало падставы сяму-таму з рэцэнзентаў убачыць у тагачаснай творчасці У. Арлова прыкметы паўтору, літаратуршчыны. Але памыліліся яны. Прыкмячаючы прыватнае, не маглі — а можа не хацелі [illegible]вярнуць увагу на найбольш [illegible]тнае!

Істотнае якраз у тым, што моцны, здаровы талент У. Арлова перамагаў стандартнасці сітуацый. Заглыбленне ў характары персанажаў адбывалася па лініі фіксавання самых найтанчэйшых зрухаў чалавечай душы. Напрыклад, тонка раскрыў У. Арлоў характар так званага цяжкага падлетка ў апавяданні «Верабейчык», як бы прыслухаўшыся да самой душы яго. І ўжо нават такое «літаратурнае апавяданне», як «Трое над Атлантыдай», загучала дзякуючы моцнаму псіхалагічнаму пачатку.

Сама ж сітуацыя, пакладзеная ў аснову твора, банальная, тэма — курортная. Герой апавядання выпадкова сустракаецца з дзяўчынай, якая, як высветлілася неўзабаве, чакае дзіця. Сустрэча абодвух ні да чаго не абавязвае і разам з тым прымушае Кастуся многае змяніць у сваіх поглядах. А ўсё таму, што ў гэтай выпадковай спадарожніцы герой У. Арлова, як ні дзіўна, у нечым пазнае і самога сябе, а калі дакладней, бачыць у многім блізкую і гэткую ж адзінокую душу.

Не бяруся сцвярджаць, наколькі моцны ў лёсе Кастуся аўтабіяграфічны пачатак, але тое, што ў пэўнай меры У. Арлоў пісаў яго і з самога сябе, сумнення выклікаць не можа.

Ёсць у творы вельмі важны момант. Кастусь перажывае, што кніга, якая напісана ім аб мінулым, не надта карыстаецца папулярнасцю ў чытачоў. Ды і крытыка як быццам да яе абыякавая. «Няўжо мы настолькі забыліся на сваю гісторыю. Настолькі, што кожнае слова супраць яе ўяўнай сярмяжнасці ўспрымаецца ледзь ці не з падазронасцю? — пытаўся Кастусь.— І самае дзіўнае, што ў гэтай сярмяжыне шмат каму вельмі ўтульна».

Пазбавіцца сярмяжнасці... Прыгадаем аповесць У. Арлова «І вярталіся мы...» (таксама з першай кнігі), твор не ва ўсім бездакорны, але найперш важны тым, што аўтар засяроджвае думку якраз на гэтым аспекце — адказнасці кожнага чалавека перад гісторыяй. Развіваючы думку далей, у русле аўтарскіх разваг, можна сказаць, што пісьменнік ваяўніча не прымае





**22-я Усесаюзная выстаўка дыпломных работ студэнтаў мастацкіх вышэйшых навучальных устаноў СССР адкрылася ў Палацы мастацтва ў Мінску. Дзевятнаццаць інстытутаў і нацыянальных акадэмій мастацтваў прадставілі на выстаўку лепшыя работы сваіх выпускнікоў за апошнія пяць гадоў. Наведвальнікі выстаўкі пазнаёміліся з цікавымі пошукамі маладых мастакоў, архітэктараў, дызайнераў. У экспазіцыі—жывапіс, графіка, скульптура, работы манументальнага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.**

**Падобная выстаўка ў Беларусі праводзіцца ўпершыню.**

**НА ЗДЫМКАХ: наведвальнікі выстаўкі знаёмяцца з экспазіцыяй; работа С. ГУМІЛЕЎСКАГА (Мінск) «Максім Багдановіч».**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

нацыянальную сярмяжнасць, прыбядненне, якое вядзе да адмаўлення багатай гісторыі. Сапраўды «паэтам можаш ты не быць, а грамадзянінам быць абавязаны». Патрэбным адчувае сябе і адзін з герояў аповесці літаратар Васіль Максімавіч, калі выступае ў абарону цэркаўкі, каля якой мясцовыя манкураты збіраюцца будаваць свінарнік.

Апавяданне «Трое над Атлантыдай», аповесць «І вярталіся мы...»— аўтарскае набліжэнне да сваёй тэмы, выхад на творчыя прасцягі, падуладныя менавіта таленту У. Арлова. Да месца будзе сказаць, што пачынальнікам у беларускай літаратуры тут быў Уладзімір Караткевіч. Сёння на глебе, апрацаванай ім, неблагое калоссе: успомнім творы Л. Дайнекі, В. Коўтун, К. Тарасава, Э. Скобелева і іншых пісьменнікаў. У гэтай кагорце дастойнае месца належыць і У. Арлову, аб чым, у прыватнасці, пераконвае яго другая кніга прозы «Дзень, калі ўпала страла», якая нядаўна выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Творы, што склалі змест гэтага зборніка, яшчэ задоўга да таго, як быць сабранымі пад адной вокладкай, знайшлі зацікаўленых чытачоў. Прынамсі, А. Сямёнава ў адным з артыкулаў, гаворачы аб набытках беларускай гістарычнай прозы, вылучыла ў Арлова «не проста веданне матэрыялу і гістарычных рэалій, а пачуццё часу, мастацкае асэнсаванне падзей, выдатную беларускую мову».

З такой ацэнкай нельга не пагадзіцца, хоць няма патрэбы адмаўляць у творчасці У. Арлова і элементаў рамантызацыі. Гэта, зразумела, з радасцю сустракаецца пэўнай катэгорыяй чытачоў, але прыхарошванне не заўсёды даспадобы тым, хто хоча цвярозай прозы з рэалістычнай падсветкай. На маю думку, апошняга якраз не стае ў цікавым апавяданні «Пяць мужчын у леснічоўцы», у якім расказваецца пра паўстанцаў 1863 года. Развагі некаторых з гэтых людзей, што апынуліся разам, падаюцца на ўзроўні нашага сённяшняга ведання аб згаданым паўстанні і яго ўдзельніках.

Сімптаматычна, што ў большасці апавяданняў на гістарычную тэматыку У. Арлоў такіх нацяжак паспяхова пазбягае. Прытрымліваючыся канкрэтных фактаў, ён, як кажуць, нічога не прыдумвае, а дае волю фантазіі толькі ў адным кірунку — прадугадваючы, як гістарычныя асобы маглі б, павінны былі весці сябе менавіта ў гэтых абставінах. Уражваюць праўдзівасцю, пераканаўчасцю апавяданні «Пакуль не згасла свечка», у якім паўстае прывабны воблік пісьменніка і філосафа Незабыткоўскага, «Місія папскага нунцыя», дзе буйным планам пададзены вядомы атэіст, філосаф Казімір Лышчынскі, «Далёка да вясны», у якім з прыязнасцю піша аўтар пра Ігната Грынявіцкага (ён, як вядома, у 1881 годзе зрабіў замах на цара Аляксандра II).

Схільнасць У. Арлова да пісання своеасаблівых твораў-партрэтаў дае падставу меркаваць, што, магчыма, у перспектыве ён выйдзе і на больш сур'ёзную заяўку. Скажам, паспрабуе свае сілы ў жанры мастацкай біяграфіі для папулярнай серыі «Жыццё выдатных людзей», якую выпускае ўсесаюзнае выдавецтва «Молодая гвардия». Дарэчы, першай беларускай ластаўкай стала тут кніга А. Лойкі пра Янку Купалу, і цяпер рыхтуецца яго ж кніга пра Францыска Скарыну. А чаму б У. Арлову не ўзяцца за кнігу пра М. Гусоўскага?! Тым больш, што ўдалыя спробы спасціжэння гэтага вобраза ўжо зроблены ў аповесці «Час чумы»..

Вяртанне мінулага для У. Арлова — само вяртанне памяці. У сувязі з гэтым асаблівай ухвалы заслугоўваюць тыя яго творы, у якіх пісьменнік піша пра сівую мінуўшчыну. У шэрагу іх на першым месцы стаіць аповесць «Дзень, калі ўпала страла». Каб быць дакладным, трэба сказаць, што ў пэўнай меры пра падзеі, адлюстраваныя У. Арловым, пісаў у рамане «Меч князя Вячкі» Л. Дайнека. Аднак аповесць — не паўтор, а яшчэ адно, прытым самастойнае, прачытанне таго, што адбывалася ў Полацку ў 1216 годзе, калі палачане ўзняліся на адну з самых рашучых у сваёй гісторыі бітваў супраць чужынцаў.

Паставіўшы ў цэнтр твора князя Уладзіміра, пісьменнік дакладнымі штрыхамі паказвае і яго акружэнне, а таксама многіх з простых абаронцаў горада. Аповесць напісана з думкай пра сам народ як рухаючую сілу гісторыі. Са старонак твора добра бачна, што палачане хацелі жыць у міры і згодзе і іх барацьба супраць крыжакоў — неабходнасць абароны свабоды, незалежнасці. Як не прыгадаць такі эпізод: князь Уладзімір глядзіць на ўзыходзячае сонца, і яно нагадвае яму пунсовы шчыт. Шчыт не столькі для таго, каб наступаць. Шчыт, каб абараняцца.

Мастакоўскія набыткі У. Арлова відавочныя. Да ўсяго ён займаецца актыўнай грамадскай дзейнасцю, шмат выступае як публіцыст, аб чым сведчаць артыкулы ў газетах і часопісах. Кожнае выступленне пісьменніка прасякнута гарачым клопатам, каб менела на нашай карце так званых «белых плям», каб менела людзей, якія з пагардай ставяцца да мінулага свайго народа. За ўсім гэтым — пазіцыя У. Арлова — пісьменніка, грамадзяніна, чалавека. Пазіцыя, асноватворныя моманты якой сфармуляваны ім былі яшчэ на пачатку творчай дарогі.

Хочацца тут прыгадаць такі эпізод з апавядання У. Арлова «Добры дзень, мая Шыпшына»:

«Аднойчы ты сказала:

— Каханне — найвышэйшае з усяго, што народжана жыццём.

— Не,— сказаў я.— Любоў да роднай зямлі вышэй».

Тым самым сказана ўсё. Тут і тэкст, і падтэкст.

Пажаданні на будучыню? Хацелася б, каб талент У. Арлова і надалей развіваўся і самасцвярджаўся. А яшчэ хацелася б, каб пісьменнік заўсёды ведаў цану сабе і свайму слову. Прызнанне ў У. Арлова заслужанае. За кнігу «Добры дзень, мая Шыпшына» прысвоена прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, яго творчасці прысвечаны добры дзесятак рэцэнзій, імя маладога аўтара пастаянна згадваецца ў артыкулах. Толькі б не трапіў ён пад уплыў тых крытыкаў, якія ў сваіх выступленнях ледзь не супрацьпастаўляюць яго іншым, не менш таленавітым аўтарам, хто працуе таксама па-маладому плённа і натхнёна.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**АД РЭДАКЦЫІ: у бліжэйшых нумарах мы надрукуем апавяданне на гістарычную тэму У. Арлова «Далёка да вясны».**

## ВАСІЛЬ ВАШЧЫЛА І ІНШЫЯ

Імя беларуса Васіля Вашчылы, кіраўніка сялянскага паўстання ў 1740-х гадах, жыве ў нашай гісторыі ўжо амаль два з палавінай стагоддзі.

Адна з прыкметных падзей XVIII стагоддзя на тэрыторыі Магілёўскай вобласці, вядомая як Крычаўскае паўстанне—буйнейшае антыфеадальнае выступленне сялян і гарадской беднаты Крычаўскага староства супраць феадальнага прыгнёту польскай шляхты і яе васалаў-арандатараў.

Пра яго расказвае новая кніга мінскіх вучоных В. Мялешкі і П. Лойкі «Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы». Яе выпусціла ў свет у папулярнай серыі «Школьнікам—аб гісторыі БССР» мінскае выдавецтва «Народная асвета». Даступнай мовай, грунтуючыся на шматлікіх дакументальных крыніцах, аўтары вядуць размову пра напружанае становішча, што склалася ў выніку шматвяковага панавання Рэчы Паспалітай на Беларусі. Даведзеныя да адчаю жорсткай эксплуатацыяй, самавольствамі арандатараў і адміністрацыі буйных магнатаў, паншчынай і непасільнымі падаткамі, сяляне многіх вёсак узняліся на ўзброеную барацьбу. На чале яе сталі селянін Васіль Вашчыла, яго паплечнікі Іван Карпач, Стэсь Бачко, Васіль Вецер і іншыя. Ход паўстання і яго вынікі і асвятляе новая кніга.

Выкарыстана ў ёй нямала фактаў, што сталі вядомымі дзякуючы шматгадовым пошукам і знаходкам аўтараў, асабліва ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Украінскай ССР у Кіеве, дзе была знойдзена следчая справа В. Вашчылы. Удалося даведацца, у прыватнасці, што ён памёр 28 жніўня 1744 года ў горадзе Старадубе (Бранская вобласць). Раней жа ва ўсіх выданнях БелСЭ адзначалася: «Гады нараджэння і смерці невядомыя». І такі факт сведчыць аб плённай рабоце гісторыкаў.

Невялікая па аб'ёму, але вельмі насычаная і змястоўная, кніга прынясе карысць не толькі вучням, але і краязнаўцам, настаўнікам, журналістам, бо, калі не лічыць нешматлікіх навуковых манаграфій і мастацкіх твораў, у нас яшчэ вельмі мала папулярных выданняў пра падзеі даўняй гісторыі Беларусі.

**А. МАГІЛЁВЕЦ.**

## ПІСЬМЕННІКІ СУСТРЭЛІСЯ З ГРАМАДАЗНАЎЦАМІ

У інстытуце павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў грамадскіх навук у Мінску адбыўся «круглы стол» на тэму: «Мастацкая літаратура і публіцыстыка і праблемы гуманістычнай адукацыі на сучасным этапе». Для ўдзелу ў дыскусіі былі запрошаны пісьменнікі, супрацоўнікі літаратурных выданняў. Дыскусія насіла часам вострапалемічны характар і не абмяжоўвалася загадзя акрэсленай тэмай. Закраналіся надзённыя пытанні сённяшняга культурнага і ідэалагічнага жыцця рэспублікі. У выступленнях і запісках з залы адзначаліся асобныя публікацыі «ЛІМа», у прыватнасці, артыкулы У. Арлова, Н. Гілевіча, Г. Далідовіча, Б. Сачанкі, выказвалася пажаданне, каб штотыднёвік паслядоўна вёў свае рубрыкі, больш грунтоўна асвятляў закранутыя раней і новыя тэмы, друкаваў альтэрнатыўныя матэрыялы і г.д.

## *МУЗЕЙ У ГУДЗЕВІЧАХ*

## АТРЫМАЎ СТАТУС ДЗЯРЖАЎНАГА

**Алесь Белакоз — настаўнік Гудзевіцкай сярэдняй школы Мастоўскага раёна разам са сваімі вучнямі на працягу многіх гадоў стварыў у роднай вёсцы этнаграфічны музей, а затым літаратурны, гісторыка-краязнаўчы і музей ільну. Прадметамі хатняга ўжытку, што засталіся ад дзядоў, абагацілі этнаграфічны музей усе жыхары Гудзевіч—прыносілі драўляны посуд, калаўроты, куфэркі, плеценую мэблю, люльку, у якой калыхалі немаўлят, кросны, драўляны плуг. Далейшая работа, пошукі, экспедыцыі па навакольных вёсках дазволілі сабраць багатыя матэрыялы, якія і склалі экспазіцыі яшчэ трох музеяў.**

**Цяпер музейны ансамбль у Гудзевічах атрымаў статус дзяржаўнага. А яго заснавальніку Алесю Белакозу прысвоена званне заслужанага работніка культуры БССР.**

**НА ЗДЫМКАХ: так выглядае этнаграфічны музей у Гудзевічах; у музеі льну. Справа налева—Алесь БЕЛАКОЗ, вучаніцы Каця ЛАНЦЭВІЧ, Жанна ЯГНЕШКА і Оля ЛЕЎСІК; у этнаграфічным музеі. Экскурсію праводзіць Каця ЛАНЦЭВІЧ.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**

## НЕЧАКАНАЕ РАШЭННЕ СЛАВУТАЙ ТЭНІСІСТКІ

# ПЕРАЙШЛА Ў ПРАФЕСІЯНАЛЫ

«Савецкая тэнісістка Наталля Зверава падпісала прафесіянальны кантракт у Злучаных Штатах». Інфармацыйнае паведамленне пад такім загалоўкам паступіла ад вядучых замежных агенцтваў.

Сутнасць справы такая. Восьмая ракетка свету мінчанка Наталля Зверава, якой 16 красавіка споўнілася 18 гадоў, падпісала прафесіянальны кантракт з амерыканскай фірмай «Про Серв» і цяпер сама будзе распараджацца ўсімі даходамі, атрыманымі ад сваіх выступленняў, без пасрэдніцтва савецкай Тэніснай федэрацыі. Аб гэтым перадало агенцтва Франс Прэс.

І вось карэспандэнт газеты «Советский спорт» А. Уладыкін вырашыў праверыць гэтыя факты. Ён патэлефанаваў у ЗША і гутарыў з самой Наталляй Зверавай, якая ўдзельнічала там у міжнародным турніры. Прыводзім кароткі тэкст гэтай гутаркі.

— Дазвольце, Наташа, задаць першае пытанне. Наколькі дакладныя паведамленні заходніх інфармацыйных агенцтваў, што тычацца вашага кантракта?

— Так, я яго падпісала.

— Вы з кімсьці раіліся папярэдне? Наколькі добра прадумалі сваё рашэнне?

— Я ўсё прадумала добра.

— Вы спадзеяцеся, што ваш крок нешта можа змяніць у існуючай практыцы аплаты спартсменаў, якія выступаюць за мяжой?

— Так, спадзяюся.

— Цяпер вы, напэўна, у цэнтры ўвагі замежных карэспандэнтаў. Што больш за ўсё іх цікавіць?

— Пытанняў, вядома, многа. Усім цікава тое, што я зрабіла.

— Як вы завяршылі фінальны матч з Амеліяй Айленд?

— Мы з Ларысай Саўчанка ігралі ў пары. Перамаглі...

— У свой дзень нараджэння?

— Так.

— Напэўна, было многа віншаванняў?

— Саперніцы павіншавалі на корце. А ўвогуле сустрэча закончылася вельмі позна, асаблівых урачыстасцей не было.

— Куды цяпер трымаеце шлях?

— Пералятаем у Еўропу, у Швейцарыю. У Жэневе пройдзе вялікі міжнародны турнір. А потым дамоў, у Мінск.

Дык што будзе за гэтым крокам славутай спартсменкі?.. Час пакажа. Спадзяёмся, што мы атрымаем у далейшым вычарпальны адказ.

## ВАЛЕРЫЙ БАГДАНОВІЧ—ЭНТУЗІЯСТ КУЛЬТУРЫЗМУ

# ЛІДЭР ЗБОРНАЙ

«Мэтанакіраванасць, працавітасць плюс самааддана сць — вось Багдановіч» — гэта формула Руслана Дуброўскага, аднаго з кіраўнікоў секцыі атлетызму ў Мінску. «Валерый заўсёды ўмеў многа працаваць, не шкадаваць сябе і моўчкі цярпець»,— гаворыць пра яго мама.

Ён, я лічу, выйграе спаборніцтвы перш за ўсё інтэлектам, а потым ужо целам. Валерый вельмі натуральны. А натуральнасці трэба вучыцца, шлях да яе — самакантроль: слухай сябе, глядзі за сабой. Калі пры намаганні твар сказіла грымаса натугі, гэта і непрыгожа, і верная прыкмета насілля над сабой, гледачу гэта не падабаецца.

Ён многае імкнецца нагнаць. Шлях да высокіх спартыўных дасягненняў у Багдановіча, які сёння першым нумарам уключаны ў зборную СССР па культурызму, быў нялёгкі.

Нарадзіўся ў Мінску ў 1966 годзе. Бацька—майстар спорту па боксу—з ранніх гадоў прывіў Валерыю любоў да фізічных практыкаванняў. У школьныя гады сын праявіў сябе і ў барацьбе, і ў боксе, займаўся нават фігурным катаннем, а любімага віду спорту, каб прысвяціць усяго сябе, доўга не мог знайсці. Зрэшты, як і ў выбары прафесіі. Пасля школы спрабаваў працаваць на заводзе слесарам-зборшчыкам дакладнай апаратуры. Але манатоннасць канвеера стамляла яго, «заняволвала мышцы», падкрэслівае Валерый. Тады ён вырашыў стаць інжынерам. Прайшоў конкурс на модны ў тыя часы факультэт гідрабудаўніцтва Беларускага політэхнічнага інстытута. Атрымаў дыплом, але будаваць гідраэлектрастанцыі яму не давялося. Менавіта ў студэнцкія гады нехта з замежных студэнтаў, якія вучыліся ў інстытуце, падарыў яму кніжку пра культурызм. З гэтага ўсё і пачалося. Багдановіч у падвале старога дома «выпрасіў» у работнікаў камунальнай гаспадаркі пакой для заняткаў, сабраў некалькі такіх жа энтузіястаў і пачаў трэніроўкі па метадыцы, падказанай кнігай.

У той час культурызм у нас ведалі толькі ў Прыбалтыйскіх рэспубліках. Менавіта тут на адным з міжнародных традыцыйных турніраў, якія праходзяць штогод, ён і зойме потым першае месца, заявіць пра сябе ў вялікім спорце, атрымае «вялікую прэсу». Але тады да гэтага было яшчэ далёка: у 1973 годзе быў выдадзены загад, які забараняў заняткі такімі відамі спорту, як каратэ і культурызм. Прэса па ўказанню «зверху» раскрытыкавала гэтыя віды спорту як чужыя духу савецкага маладога чалавека.

— А чым больш забараняюць, тым больш хочацца. І мы працягвалі займацца падпольна, верачы, што час бюракратаў хутка пройдзе,—успамінае Валерый. Так яно і здарылася.

У пачатку васьмідзесятых гадоў у Беларусі была створана федэрацыя атлетызму з секцыяй культурызму. Багдановіча, як самага вялікага энтузіяста гэтага віду спорту, выбралі старшынёй тр[illegible]эскага савета. К таму часу [illegible]ко тры разы выйграў «Янтарны прыз» у Клайпедзе, пяць разоў — кубак рэспублікі, яго ўключылі ў зборную СССР. Яго каманда на чэмпіянаце свету ў Аўстраліі ў кастрычніку мінулага года заняла дзевятае месца. Нібыта непрэстыжна быць у канцы першай дзесяткі. Але Валерый расказвае пра гэта з непрыхаванай радасцю: бо ўпершыню савецкія культурысты вырашылі «сябе паказаць» на сусветнай арэне ў гэтым відзе спорту. Наступны этап — маючы адбыцца чэмпіянат Еўропы ў Нарвегіі.

— Не маючы дастатковага вопыту міжнародных спаборніцтваў, добрай трэніровачнай базы, нават збалансаванага рэжыму харчавання, мы можам дасягнуць нечага толькі за кошт методыкі трэніровак,— як бы апраўдваючы сваю загружанасць, гаворыць Багдановіч.

Сапраўды, сустрэцца з ім журналісту няпроста. Самы строгі рэжым, карпатлівыя трэніроўкі, трэнерскія клопаты, праца над дыпломам у інстытуце фізкультуры, які ён у гэтым годзе заканчвае, сям'я. Ды яшчэ новая справа: нядаўна Багдановіча выбралі старшынёй кааператыва «Тонус», які выпускае спецыяльнае атлетычнае абсталяванне для спартзалаў рэспублікі. Цяпер секцый культурызму адкрываецца многа, а абсталявання не хапае. «Тонус» пад кіраўніцтвам Багдановіча стараецца ліквідаваць гэты прабел.

Валерый не мае нейкіх асаблівых фізічных даных: рост 170 сантыметраў, вага 80 кілаграмаў. А ў жыцці ён любячы і клапатлівы бацька, сын, муж. Пасля спартыўных нервовых нагрузак і мітусні, трэніровак і збораў асабліва востра адчуваецца радасць, якую даюць дом, блізкія людзі.

Рыгор КОЛАБАЎ.

## БАСКЕТБАЛІСТКІ МІНСКАГА «ГАРЫЗОНТА» — СЯРЭБРАНЫЯ ПРЫЗЁРЫ ЧЭМПІЯНАТУ СССР

# ДЗЯЎЧАТАМ СЛЁЗЫ... ДА ТВАРУ

Перад пачаткам суперфінальнай серыі першынства краіны па баскетболу паміж мінскім «Гарызонтам» і маскоўскім ЦСКА спецыялісты выказваліся адназначна: беларускія спартсменкі прайграюць абодва матчы. І гэтыя прагнозы мелі, на першы погляд, важкія падставы. Нядаўна масквічкі заваявалі ганаровы еўрапейскі прыз — Кубак Ранкеці. І, бадай што, ні адна клубная каманда ва ўсім свеце не мае такіх славутых ігракоў экстракласа: Барэль, Тарнікіду, Кузняцова, Бунацьянц...

Але і баскетбалісткі «Гарызонта», як кажуць, здавацца на міласць пераможцы не збіраліся. Тым больш, што і сярод іх ёсць вядомыя спартсменкі: прозвішчы Савіцкай і Сумнікавай ведае ўвесь спартыўны свет, яны прызёры сеульскай Алімпіяды, члены зборнай СССР, пераможцы многіх міжнародных турніраў. Менавіта яны і былі самымі лепшымі ігракамі ў гэтай суперсерыі.

Першы матч склаўся для беларускіх баскетбалістак вельмі ўдала. Яны лідзіравалі з самага пачатку да канца гульні і атрымалі перамогу з лікам 79 : 74.

Праз дзень каманды гулялі ў Маскве. Пачатак матча абнадзейваў: да трынаццатай мінуты мінчанкі вялі ў ліку. Але паспелі атрымаць замнога персанальных папярэджанняў. Гэта не магло не адбіцца на гульні. Сталі асцярожнічаць Рубан, Соцікава. І вось ужо масквічкі зраўнялі лік, пасля і выйшлі наперад. Розніца дасягнула дванаццаці ачкоў.

У самым канцы сустрэчы мінчанкі паспрабавалі дагнаць саперніц. І хто ведае, калі б яшчэ было крыху часу, каб не атрымалі па пяць папярэджанняў Савіцкая і Сумнікава?.. Можа не спатрэбіўся б трэці, дадатковы матч. Калі прагучала сірэна, на табло быў вынік 74 : 68 на карысць ЦСКА.

І трэці матч быў надзвычай напружаным. У нейкай ступені падобны на папярэдні. Толькі цаной вялікіх намаганняў масквічкам удалося вырваць перамогу: 93:85.

Тысячы тэлегледачоў бачылі тыя хвалюючыя мінуты: радасць баскетбалістак ЦСКА і іх маладога трэнера Анатоля Мышкіна і слёзы беларускіх спартсменак. Так, калі б крышку пашанцавала...

Але настаўнік «Гарызонта» Сямён Халіпскі суцяшаў сваіх падапечных: хіба «серабро», упершыню заваяванае беларускімі баскетбалісткамі ў чэмпіянатах краіны, гэта не поспех!.. Поспех, ды яшчэ які! Малайцы, дзяўчаты. Сёння вам слёзы таксама да твару. А мы, аматары спорту, будзем спадзявацца, што наступны раз вам абавязкова дастануцца і залатыя медалі.

Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.

## ПЕРШЫНСТВЫ, ТУРНІРЫ, СУСТРЭЧЫ

● На чэмпіянатах Еўропы і свету па хакею ў Швецыі вызначана чацвёрка мацнейшых каманд, якая павядзе барацьбу за залатыя медалі. Гэта зборная СССР, Чэхаславакіі, Швецыі і Канады. Савецкая каманда на папярэднім этапе выйграла ва ўсіх сапернікаў. Да таго ж стала чэмпіёнам Еўропы.

● Восем першых месцаў — такі вынік выступленняў беларускіх барцоў вольнага стылю на ўсесаюзным турніры з удзелам спартсменаў Беластока за прыз Героя Савецкага Саюза генерала Д. Карбышава. У нашай камандзе вызначыліся: М. Аліеў, Р. Халікаў, В. Грыб, Л. Хмураў, А. Бабей, Ю. Базанаў, Г.Антушэвіч і А. Яскулд.

● У традыцыйным марафонскім бегу ў Лондане ўдзельнічала 31 тысяча чалавек з 52 краін. Беларуская лёгкаатлетка Раіса Смяхнова была на фінішы пятай. Гэта лепшы вынік сярод савецкіх спартсменак.

● Паспяхова правялі пераходныя гульні хакеісты калгаса «Прагрэс» Гродзенскай вобласці. Яны заваявалі права выступаць у наступным годзе ў вышэйшай лізе.

● Па запрашэнню Беларускага аддзялення Фонду міру ў Мінску пабываў старшыня праўлення Савецкага фонду міру, народны дэпутат СССР, вядомы шахматыст А. Карпаў. Ён меў гутаркі ў ЦК КПБ, з грамадскасцю горада, выступіў з лекцыяй, правёў сеанс адначасовай гульні з прыхільнікамі шахмат у рэспубліканскім Палацы шахмат і шашак.

Усё большую папулярнасць заваёўвае жаночы футбол. На леташнім эксперыментальным першынстве краіны зборная Беларусі ўвайшла ў дзесятку лепшых каманд. Вынік для пачатку нядрэнны. Але нашы дзяўчаты мараць і аб прызавым месцы. У шэрагу гарадоў з'явіліся свае каманды. Створана яна і пры спортклубе «Хімік» Брэсцкага завода бытавой хіміі. Назвалі яе дзяўчаты «Вікторыя». Іграюць у ёй навучэнцы брэсцкіх тэхнікумаў, а таксама старэйшых класаў СШ № 12, студэнткі. Цяпер футбалісткі старанна трэніруюцца, марачы прыняць удзел у першынстве жаночых футбольных каманд рэспублікі.

НА ЗДЫМКУ: футбалісткі «Вікторыі».

Фота Э. КАБЯКА.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 494